## ЗЬМЕСТ:




Нумар здан у набор 13-VI—32 г.

Падпісан да друку 26-VI—32 г.

Адказны рэдактар Мікола Хведаровіч.

Адказны сакратар В. Маракоў.

Нумар набран і зьвёрстан брыгадай імя 13-га Кастрычніка, па макету А. Тычыны.

Карэктар З. Варатынская.

Кліша выканаиы пад кіраўніцтвам Кантаровіча.

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 59. Тэлефон 17—09.

№ 11-12 ЧЭРВЕНЬ 1932

Фото І. САЛАВЕЙЧЫКА



У адказ натхніцелям інтэрвэнцыі, пасьлядоўна праводзячы палітыку міру, працоўныя Краіны саветаў яшчэ больш узмоцняць тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, узмоцняць намаганьні па ўмацаваньні баяздольнасьці нашай слаўнай Чырвонай арміі.

А. ВОЛЬНЫ
Р. КОБЕЦ

# РАТУЙ, божа!

УРЫВАК З КОМЭДЫІ

Малюнкі М. Пашкевіча

**„Ратуй, божа“ — антырэлігійная п'еса ў сатырычным жанры апавядае пра багоў ды пра нашага савецкага абывателя Міколу Пупочка**

7 АБРАЗОК

(з антырэлігійнай п'есы-сатыры)

*Габінэт містэра Крафта. Сядзяць Крафт і кардынал. У дзьвярах стаіць Ісус.*

Крафт. Вы яго добра ведаеце, гэтага джэнтльмэна, што прышоў з вамі, ваша эмінэнцыя?

Кардынал. Вельмі добра. Ён дужа таленавіты прапаведнік.

Крафт. Папулярны?

Кардынал. О, так. Калі ў Тэхасе выбухла забастоўка сельскагаспадарчых рабочых, ён шмат дапамог мясцовай уладзе. Калі ўзброены чым папала натоўп наляцеў на магістратуру і зьмяў паліцыю, ён двухчасовым казаньнем супакоіў узбураныя масы. Надзвычайны прапаведнік і мэтады ў яго надзвычайныя.

(*Ісус кланяецца*)

Крафт. Які?

Кардынал. Крыху дзіўны, але досыць эфэктны. Іншы раз ён абвяшчае сябе Ісусам хрыстом, другі раз сышоўшым на зямлю.

Крафт. Глупства. (*Ісус кашляе*).

Кардынал. Вядома, глупства. Але між іншым часамі гэта робіць уплыў... Тым больш, што ён крыху падобен з твару да хрыста, такога, якім мы бачым яго на абразох. Асабліва заўважце, калі яго вусікі крыху спусьціць і расчасаць бародку... і нават апранаецца ён таксама эфэктна... На нагах сандалі, затым шырокае біблійскае адзеньне і даўгія валасы (*шэпча на вуха Крафту*). На мой погляд гэта або фанатык, які ашалеў ад рэлігіі, або лоўкі жулік...

Крафт. Фанатык — кепска. У большасьці выпадкаў фанатыкі—ідыёты... Ім небясьпечна даручыць сур'ёзную справу. Жулік лепш. Гэта народ дзелавы. З імі лягчэй згаварыцца і старгавацца (*Да сакратара*). Папрасіце сюды гэтага... ну як яго... ну наогул таго, што там стаіць... (*Сакратар просіць*). Ды ваша эмінэнцыя, кажаце, што ён дужа папулярны?

Кардынал. О так. Казаньні яго прынесьлі вялікую карысьць кампаніі Сьміт у Тэхасе. Апроч таго яго ведаюць на Поўдні... Асабліва папулярны ён у Паўднёвай Караліне сярод нэграў, дзе ён таксама неаднакроць спыняў забастоўкі... Там некаторыя газэты нават зьмясьцілі яго казаньні, прытчы, выслоўі і партрэты. Вось калі ласка некалькі экзэмпляраў, пераканайцеся.

Крафт. Так, так, цікава. Бадай што мы яго скарыстаем.

Ісус. У імя айца і сына і сьвятога духа...

Крафт. Амэн. Сядайце. Прозьвішча.

Ісус. Містэр Роджэрс са штату Кентуккі. А нябеснае— Ісус хрыстос—сын божы адзінародны. Прышоў другі раз на зямлю ўзмацніць веру ў бацьку майго найвышняга ў сэрдцах людзкіх.

Крафт. Ха-ха-ха... Даўнавата вы да нас не заглядалі.

Ісус. Дзьве тысячы год, брат мой.

Кардынал. Цсс... Ня брат мой, а містэр Крафт. Кіраўнік найбуйнейшай у Амэрыцы машынабудаўнічай кампаніі Крафт і сыны, уласьнік шасьцёх царкоўных парафій. Наш патрон і дабрадзей.

Крафт. Ітак вы сьцьвярджаеце, што вы Ісус хрыстос? Ну, што-ж наша кампанія нічога ня мае супроць гэтага, калі вы нам прынясеце карысьць.

Ісус. Пашто сьмяешся над госпадам богам, сын мой?

Кардынал. Містэр Роджэрс, кіньце. Ізноў у вас гэта неадчэпная ідэя... мы-ж ня дурні. Усё гэта падходзіць для цёмнага народу з Тэхасу і не падыходзіць нам...

Ісус. Ты бога зьневажаеш, сын мой...

Кардынал. Ну вось і да чаго упарты чалавек. Кіньце, давайце гаварыць па-дзелавому. Навошта псаваць сабе кар'еру.

Крафт. Вось, вось па-дзелавому. Дзелавому чалавеку кар'ера заўсёды забясьпечана... Мне яго эмінэнцыя кардынал містар Вільямс даў пра вас добрую характарыстыку. Прымаю вас на службу. Вы будзеце маім штатным прапаведнікам майго прыходу і маёй царквы на Грот-Стры, заселенай пераважна рабочымі маіх прадпрыемстваў. Плачу я добра... Ваша работа—чытка казаньняў у царкве і рэлігійная прапаганда сярод рабочых і асабліва моладзі ў масавым маштабе. Гэта добры сродак барацьбы супроць камуністычнай заразы. Тэмы і тэзісы для чарговых казаньняў атрымаеце ў майго сакратара. Першае казаньне прачытаеце на тэму: Бог і эканомічны крызіс,—крызіс будзеце тлумачыць аслабленьнем веры ў бога і савецкім дэмпінгам. Сродкі на організацыйную працу і масавую атрымаеце таксама ў сакратара. Вы асабіста будзеце атрымліваць дванаццаць тысяч доляраў у год. За паасобныя добра выкананыя заказы будзе плата асобная... Папулярнасьць вам у маіх газэтах забясьпечана... Будзеце добра працаваць,—калі вас гэта задавальняе—залічым вас у лік сьв тых—згодны?

Ісус. Згодзен.

Крафт. Ну вось, бачыце, люблю дзелавых людзей. Гэты маскарад кіньце. Біблейскую хламіду трэба скінуць і замяніць добрым культурным гарнітурам, Тое, што здаецца вялікім нэграм з паўднёвай Караліны і каўбоям з Тэхасу — можа аказацца сьмешным для рабочых маіх прадпрыемстваў. Гэта можа пашкодзіць справе. Ісусам сябе бадай што лепш не называйце. Пасадзяць у вар'яцкі дом. Памятайце, што бог нам выгадней, тады, калі ён сядзіць на небе, і ня блытаецца ў нашы справы на зямлі. (*Да кардынала*). Ваша эмінэнцыя прасачыце за яго працай і скарыстайце як можна выгадней. Чэк на 50 тысяч доляраў атрымаеце ў сакратара. Бывайце здаровы.

Кардынал. Бывайце здаровы, містэр Крафт.



Ён дужа таленавіты прапаведнік

8 АБРАЗОК

## Лягер беспрацоўных

*Ускраіна вялікага горадv. Халупкі, пабудаваныя са скрынак, кавалкаў фанэры, бляхі, картону. Ісус стаіць на скрынцы абкружаны натоўпам белых і чорных беспрацоўных. Ён апрануты ў цывільны гарнітур. Сцэна тэатра падзелена на два паверхі. Наверсе рай, спальня бога Саваофа, унізе лягер беспрацоўных.*

Ісус. Браты мае ў хрысьце... ісьцінна глаголю вам... не упадабняйцеся гультаю, закапаўшаму ў зямлю талент свой... ідзіце працаваць... бо і цар ваш нябесны сказаў: у поце твару свайго будзеш здабываць хлеб свой.

Беспр. Дык жа-ж пацець няма дзе. Усюды крызіс, усюды застой. Я ўжо два гады бяз працы.

Ісус. Крызіс эканомікі, браты мае, кара божая за няверʻе ў сілу найвышняга. Нарабілі людзі машын, аблыталі зямлю жалезам, хэміяй, тэхнікай, навукай падрываюць веру ў айца нашага найвышняга.

Жанчына. Вы што-ж супроць навукі?

Ісус. Ад дʻябла яна, браты мае, ад нячыстага навука пайшла, калі сказаў цар наш нябесны — у поце твару здабывай хлеб свой — значыць пацей і здабывай. А навука супроць бога пайшла. Машыны будуе, варштаты, працу палягчае, супроць бога ідзе, парушаючы закон яго спрадвечны.

Голас. Эй, Джым.

Джым. У чым справа?

Голас. Ідзі паслухай, словам божым суцяшае. Цярпіце, кажа, і будзе вам царства нябеснае.

Джым. А ну іх да чорта... я зараз абы які рай памяняў-бы на добры кавалак хлеба.

Ісус. Браты, браты, ісьцінна глаголю вам, не адзіным хлебам будзе жывы чалавек.

Джым. Гэта правільна, сьвяты айцец. Чалавеку сёе-тое і да хлеба патрэбна. Напрыклад, крупнік пасытней, ці кавалачак мяса.., а калі яшчэ наверх куфаль піва, зусім добра. Што праўда, то праўда, разумна, гаворыць, трэба паслухаць. (*Падыходзіць бліжэй*).

Жанчына. Не перашкаджай, Джым. Няхай раскажа лепш пра крызіс.

Ісус. Пра крызіс скажу, браты мае, коратка. Навука і тэхніка падрываюць веру ў госпада. А савецкі дэмпінг і камуністычная пропаганда падрываюць нашу экономіку. Праганіце з сваіх шэрагаў бальшавікоў, разьвейце па ветры іх нечасьцівыя арганізацыі і крызіс пройдзе.

Джым. Бач, як засьпяваў. Чаму-ж у бальшавікоў няма беспрацоўя? Чаму ў іх няма крызісу. Ты гэтыя байкі кінь, сьвяты айцец. Парай лепей дзе працу знайсьці, можа і я тады веруючым стану.

Ісус. На прадпрыемствах містэра Крафта... Ідзіце і працуйце, замяніце сабой гультаёў, бунтароў і абібокаў, якія ня хочуць працаваць і арганізуюць забастоўкі.

Галасы. Штрэйкбрэхерстваваць?

Прадаваць сваіх сяброў?

Дарма працаваць?

Прэч яго!

Джым. Таварышы. Ганіце гэтага паразыта. Ён агэнт Крафта.

Галасы. Прэч! Дайце гаварыць.

Вон!

У карак яго!

Ісус. Браты, браты..,

Джым. Таварышы, гані яго... Гэта наняты пастар Крафта. Штрэйкбрэхераў вербаваць прышоў. Гані яго і з богам і з казаньнямі.

Ісус. Брат мой ва хрысьце. Пашто зьневажаеш бога? За такія словы і ў паліцыю можна трапіць.

Джым. Вось як, казаньні паліцэйскай дубінкай падмацоўваеш? Ды я табе...

Галасы. Дай яму, Джым!

Нокаут яму зрабі, Джым! па ўсіх правілах боксу!

(*Джым становіцца ў позыцыю*).



Нокаут яму, нокаут

Галасы. Шырэй круг!

Шырэй!

Дай яму, Джым, дай!

Пакажы крызіс.

Ісус. Браты, о браты... Даруй ім, госпадзі, бо ня ведаюць што твораць.

Джым. Станавіся ў пазыцыю. Станавіся, а то проста адлупцую.

Галасы. Так, Джым.

Нокаут яму, нокаут,

(*На сцэне цямнее, спальня бога Саваофа. Бог сьпіць на ложку, прыхрапваючы з прысьвістам, нарастае гул, галасы*).

Галасы. Так, Джым, так, не паддавайся... сьвяты айцец...

Лоўка! Брава!

Так, Джым... (*Воплескі*).

Голас Ісуса. Айцец мой нябесны, узмацні руку маю і падтрымай дух мой.

Бог. І паспаць не дадуць. Старасьці і сьвятасьці не шануюць. Эхэ-хэ... што гэта там за лямант?

Голас Ісуса. Айцец мой нябесны, абарані і памілуй мяне.

Галасы. Лупі, Джым...

Ого-го, так...

Бог (*падбягае і глядзіць у люк*). Вой, Ісуса бʻюць... Сын мой, не падавайся... Пад мікіткі яго, пад мікіткі яго...

Галасы. Ого-го... здорава.

Нокаут яму, нокаут...

Джым, не падкачай.

Бог (*мітусіцца каля люку*). Крыжом яго Ісус, крыжом, сын мой, пад дзесятае рабро... Эх, дурніца... крыж забыўся, упаў... Забілі... Дальбог забілі... Ізноў адпакутваў за чалавецтва.

Голас. Раз, два, тры, чатыры, пяць...

Бог. Пабілі... Ну што-ж цяпер рабіць?

Голас. Шэсьць, сем, восем...

Бог. Устаў... Трымайся, сын мой, так яму, так... У вуха па нашаму... Эх, дурань, боксу не навучыўся... Ізноў пабʻюць

Галасы. Няправільна...

Гэта барацьба, ня бокс.

(*Сьвіст*).

Голас Ісуса. Госпадзі зьнемагаю.

Бог. Забʻюць... Зусім забʻюць. Ратуйце, забіваюць... (*Выймае паліцэйскі сьвісток, сьвішча, з усіх бакоў зьбягаюцца сьвятыя*).

Галасы сьвятых. Божанька, што здарылася? У чым справа?

Бог. Ісуса б'юць, забіваюць... вось слухайце...

Голас Ісуса. Я цябе паражу, як Давід Галіафа...

Галасы. Не падкачай, Джым,

Ісус. Акі Самсон філісьцімлян...

Бог. Так, сын мой, так, дай яму... О-о-о... зноў упаў. Паліцыя!.. (*сьвішча*) Ага... Во... во... палісмэн... (*зьнізу чуваць сьвісткі, крыкі, страляніна*).

Бог. І паліцыя ўцякае. Уцякай сын мой, уцякай, застрэляць... Ільля, бі іх пяруном... Сьвяці, палохай маланкай.

Ільля. Не паможа, госпадзі. Тамака ў іх грамаадвод стаіць.

Бог. Ой, прапаў Ісус... Спушчайце хутчэй вяроўку... Вось так, за вяроўку хапайся, Ісус, за вяроўку,.. Учапіўся. Цягніце яго хутчэй...

Сьвятыя. Разам, разам, раз два, дружна. Ну разам.

Бог. Хутчэй, хутчэй... Эх, казаў лябёдку паставіць, не зрабілі. Тэхнікі не паважаеце... Цягніце... (*пауза Паказваецца галава Ісуса, увесь зьбіты, пад вокам ліхтар*). Забілі.. Што-ж цяпер рабіць?..

Ільля. Адыйдзе. Ён няпрытомны. Трэба вады паліць на галаву.

Ісус (*расплюшчвае вочы*). А ўсё-ж такі я яму настукаў, во, на вялікі палец...

Бог. Дурань. Я-ж крычаў, бі пад дзесятае рабро. Значыць трэба было біць. А ты яшчэ левую шчаку падставіў...

Ісус. Гэта я, айцец мой нябесны, па запаведзі тваёй зрабіў — калі хто цябе вытне па правай шчаце — падстаў левую...

Бог. Дурань, гэта-ж я пісаў дзеля таго, каб табе падстаўлялі, калі ты каго б'еш... А ты сам падстаўляеш... Бачыш што ня вытрымаеш, кліч паліцыю... яна заўсёды за нас... Сьвістаць трэба было.

Ісус. Я сьвісток згубіў...

Бог. Разява. Варона... Грошы ў Крафта атрымаў?..

Ісус. Не ...дзе там... не да таго было...

Бог. О, глядзіце на яго... І грошай не атрымаў і ў калатню папаў... морду набілі... Ісьцінна глаголю вам. Пашлі дурня богу маліцца, а ён лоб разаб'е... Бач як аздобілі... расьпісалі... ідзі прылажыся да машчэй сьвятога Панцелеймона. Няхай вылячыць цябе.

Ісус. Якія там лекі, нічога ён не дапаможа. Доктара трэба.

Бог. Сьвяты Пятро...

Пятро. Я, божанька.

Бог. Там на чарзе ў рай нікога з дактароў няма?

Пятро. Няма. У пекле ёсьць адзін... Вы-ж яго самі туды накіравалі.

Бог. Завошта?

Пятро. За тое, што ён не прызнаваў беспарочнага зачацьця дзевы Марыі.

Бог. Гінеколёг?

Пятро. Так, божанька... Ён спэц па гэтых справах...

Бог. Іш, сукін сын... але нічога ня зробіш, бяры яго ў рай, няхай падлечыць Ісуса. Гэта-ж заўтра кангрэс багоў адчыняецца, як сын мой пакажацца на кангрэс з гэткімі ліхтарамі? Ды скажы яму, гэтаму самаму доктару, каб маўчаў наконт беспарочнага зачацьця багародзіцы, бо як пачуюць аб гэтай справе жоны міраносіцы — такога наробяць тут у раю, што і сам чорт не разьбярэ. Ну пайду пакуль што адпачыць... натурбаваўся сёньня... пакута з вамі...

ЗАСЛОНА.



Гомель. Пристань на р. Сож



**Наліўка гаручага ў трактар ў саўгасе „Серп і Молат“. Сталінградзкі раён.**

# Забабоны зьядаюць мільёны пудоў СЕНА

МАКСІМ ГОРКІ

Крычіцаю і прычынаю ўсіх бытавых і многіх гаспадарчых забабонаў служыць вера ў тое, што дзяды нашы ведалі жыцьцё лепей за нас. Мо‘-б было правільна, калі-б продкі нашы нарадзіліся прамудрымі старцамі і ў той-жа час, вышаўшы з „чрэва“ мацеры, умелі адрозьніваць шкоднасьць царквы і карысьць млына. Але яны нараджаліся таксама як і мы—пісклівымі дзеткамі, і раней чым навучыцца хадзіць—поўзалі, раней чым гаварыць—мармыталі. Затым паступова, з цяжкасьцю і боем, дзяды нашы асвойвалі жыцьцёвы вопыт сваіх прадзедаў, напалову мэханічна, дадавалі да яго крыху свайго вопыту і, засьмечваючы мазгі бацькоў нашых нязьлічонаю колькасьцю старыннага самаробнага глупства, рухалі жыцьцё наперад, пасоўваючы яго куды больш сілаю малайцоўскага пляча, а ня сілаю крытычна настроенага розуму.

Усё гэта вядома, аднак, ня зусім добра уцямлена. У асяродзьдзі бацькоў знайшлося ўсё-ж нямала дастаткова сьмелых, яны адмовіліся ад веры ў непарушнасьць гістарычнага вопыта дзядоў і продкаў і зрабілі Кастрычніцкую рэволюцыю. Кастрычніцкая рэволюцыя гэта—„пераварот жыцьця“, які можна параўнаць з біогеолёгічным, з такім, пасьля якога ўся маса няўродлівай зямлі Савецкага саюзу становіцца ўрадлівай, толькі тут патрэбна замяніць зямлю чалавечаю, працоўнай масай. Яна ўся, усе яе 162 мільёны адзінак заклікаваны да работы, поўнай і канчатковай перабудовы старажытных асноў жыцьця. Праца яе будзе тым больш пасьпяховаю, чым хутчэй яна вызваліцца, ад тла, іржы і пылу адвечных забабонаў у быту і гаспадарцы. Забабонаў гэтых яшчэ многа і яны перашкаджаюць масе людзей разумець, што ўсё, што яна пасьля Кастрычніка робіць, яна робіць на сябе і толькі для сябе. Зразумець гэта—даўно час, а калі гэта будзе зразумела, гэта ўнясе ў жыцьцё яшчэ больш энэргіі, працоўнага энтузіязму і хутчэй пасуне нас да мэты. Мэта простая і зразумелая: трэба каб усім працоўным на зямлі нашай і скрозь у сьвеце жылося аднолькава добра, лёгка і сьветла. Працоўны люд—вялікі і непераможны. Чалавек, калі ён зразумее сваю нязломную сілу, калі яму стане зразумела, што толькі ён здольны вырашаць такія задачы, як будаўніцтва беламорска-балтыцкага каналу, як абвільгочваньне заволжскіх стэпаў, як злучэньне каналам Касьпійскага мора з Чорным, пасьля чаго Сібір атрымае выхад у Міжземнае мора. Народ зьмяняе фізычную геаграфію сваёй зямлі, гэтага яшчэ ніхто ніколі не рабіў у такіх памерах, як пачата ў нас.

Гэтыя задачы патрэбны для абагачэньня нашай краіны, для таго, каб іх лёгка было вырашаць, трэба паклапаціцца ўзбагаціць розум, вызваліць яго ад старасьвецкага сьмяцьця. У параўнаньні з тымі вялікімі работамі, якія вядуцца ў нас—сенакос справа нібыта маленькая. Але і здабытак сена можна разьвіць у двоя больш, калі адмовіцца ад прадзедаўскага забабону не пачынаць касьбу да Пятра, як прызвычаіліся рабіць па запавету дзядоў. Ад позьняй касьбы мы трацілі ў сене 30—40 проц. на якасьці яго, ды столькі-ж на колькасьці, бо трацім атаву, і другі ўкос. Касьбу патрэбна пачынаць у тыя дні, калі каласіцца трава, а канчаць яе, калі трава цьвіце. Ад гэтага сена будзе спажыўным, а спажыўнасьць яго адаб‘ецца адразу-ж на здароўі і продукцыйнасьці жывёлы.

Прапусьціць тэрмін пачатку касьбы—значыць зацягнуць сенакос, страціць у колькасьці і якасьці сена, рызыкаваць пакінуць частку сена няпрыбранай з сенажаці, страціць другі ўкос.



**Монтаж каупераў для домнаў Днепразаводу.**

Выкананьне гэтых умоў залежыць выключна ад сваячасовай падрыхтоўкі сенаўборачнай кампаніі, а менавіта:

Неабходна організаваць сталы склад брыгад з прымацаваньнем да пэўных вучасткаў сенажаці.

Пляны касьбы сена павінны быць у час даведзены да кожнага саўгаса, колгаса, сяла і вытворчай брыгады і абгавораны на вытворчых сходах рабочых саўгасаў і колгасаў і вызначаны тэрміны пачатку і канца ўборкі сена.

Сур'ёзная ўвага павінна быць аддадзена пытаньням організацыі працы, падбору брыгадзіраў, наладжваньню курсаў для падвышэньня іх кваліфікацыі, вызначэньню норм выпрацоўкі, пераводу на зьдзельную аплату працы, організацыі соцспаборніцтва, прэміяваньня і г. д.

У час ўборкі сена не ствараць лішніх вытворчых процэсаў—рабіць толькі тыя работы, якія сапраўды неабходны. Кожны лішні процэс—абвастрэньне нястачы рабочае сілы, ударажэньне сабекошту сена.

Патрабаваць ад рабочых поўнага скарыстаньня машын, добрай якасьці работы і правільнага догляду машыны ў часе работы.

Організаваць касьбу сена так, каб у часе работы ня было прастояў адных машын з-за другіх.

Абавязак брыгадзіраў—наладзіць добра машыны, сачыць за іх спраўнасьцю пасьля выхаду з рамонту.

Не дапушчаць, каб сена ў пракосах перасохла і ператварылася ў... салому. Трава павінна высахнуць у валах, а не ў пракосах.

Складзеце сена ў стагі да пачатку хлебаўборачнай кампаніі. Падрыхтуйце лугі да другога ўкосу.

Усё сена ў стэпавых раёнах павінна быць пададзена к базам стаянак жывёлы да пачатку зімы.

Усё гэта было часткова ажыцьцяўлёна вясною 1931 году. Па ўсёй краіне рабочыя жывёлагадоўчых саўгасаў, калгасьнікі, комсамольцы організаваліся ва ўдарныя брыгады імя Будзённага. Сіламі ўдарнікаў, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі былі выкананы і перавыкананы ўрадавыя пляны па сену (плян—62 млн. *га*, выканана—64 млн. *га*, па пляну па сілосу—10 млн. тон, закладзена—12 млн. тон). У 1930 годзе закладзена было сілосу толькі $3^1/_2$ млн. тон. Была разгорнута гарбеджная кампанія. На гарбяджы (на адыходах стравы) мы можам пракарміць столькі сьвіней, каб атрымаць штогод па 10) т. тон мяса.

Будзёнаўцы змагаюцца ня толькі за сена, сілос, гарбедж, але і за каня, вярблюда, мула.

Лёзунг „будзёнаўцаў“, лёзунг комсамольцаў у сёлетнім годзе:

— Скарочаныя тэрміны ўборкі сена!

— За якасьць сена!

— За другі ўкос!

Супроць руціны, супроць папоўскага звычая чакаць „Пятровага дня“, супроць расійскай расхлябанасьці і старынкі, за ўдарніцтва, за тэхніку, за машына-сенакосныя станцыі ў вандроўных і паўвандроўных раёнах. За масава-вытворчую работу ў колгаснай і саўгаснай брыгадзе.

Яшчэ раз: няма такіх перашкод, якія не магла-б перамагчы колектыўная сіла рабочай масы, якая кіруецца асьведамленьнем вялікае мэты, пастаўленай перад яго гісторыяй яе краіны. Цяжкі шлях да гэтае мэты, але ўпэўнена і ўмела вядзе нас да яе партыя рабочых-бальшавікоў і правадыр гэтай партыі т. Сталін. Цяжкі шлях, але ўжо хутка будзе лягчэй. Бо зроблена многа, робіцца яшчэ больш. Кожны дзень і кожная гадзіна працы ўзбагачае краіну. У гэтым багацьці няма ніводнага каліва, якое-б абмінула рабочага і селяніна, таму, што ў краіне нашай няма другіх гаспадароў, акрамя працоўнага народу і ўсё, што ён робіць, робіць ён для сябе, для таго, каб зьявіцца на зямлі самым дужым, моцным, разумным народам настаўнікам і правадыром працоўных усяе зямлі.

---

## Прапрацоўка ў колгасе „Бязбожнік“, Пухавіцкага раёну, пастаноў ЦК і СНК аб збожжа і мясазагатоўках.



**У сувязі з пастановамі калгасьнікі ўзялі на сябе рад абавязацельстваў: устанавіць дазорныя пасты, каб не дапусьціць перастою ўраджаю, павялічыць колькасьць сьвінаматак.**



**Калгасьнікі чытаюць спэцыяльны нумар насьценгазэты, прысьвечаны пастановам ЦК і СНК аб збожжа і мясазагатоўках і калгасным гандлі.**

ЮЛІ ТАЎБІН

## ПАРАД

Шэф Бодэн-Поўэл, стары сабакар
Прымаў парад
пад бравурныя маршы,
Глядзелі бой-скауты шэфу ў твар,
Кожны рух яго пераймаўшы.
Ішло пакаленьне
з цяжкою спадчынай—
Пятнаццацігадовыя сыны
Тых, чые могілкі адзначаны
крыжамі на палёх вайны.
Вайна адышла ў паласу рамантык,
яе засланіў авантурны флёр...
Як урачыста гурчаць гарматы!
Як маляўніча зьвісае хлёр.
— „Шэф Бодэн-Поўэл,
мы ўстанем гарою!
— „Шэф Бодэн-Поўэл,
мы будзем, як сталь“...
Вернецца ён дахаты героем...
Будзе на куртцы ў яго мэдаль.
А бацька злуецца:
„Зарэзаў лёкаут,
Адна справядлівая ёсьць зямля“...
Але павінен
помніць бой-скаут
Бога,
айчыну
і караля!
А брат гаварыў, што міністры—шэльмы...
А бацька ўздыхае—
„соцыялізм“...
Быў парадам здаволены вельмі
Шэф Бодэн-Поўэл, калі...
раптам,
з адчыненага вакна
Нехта над плошчаю крыкнуў у рупар:
— Дзеці рабочых!
Ідзеце да нас,
У дзіцячыя
комуністычныя групы!
Наша айчына—далёка за морам!
Плюньце старому сабаку ў твар!
... Быў таго вечару ня ў гуморы
Шэф Бодэн-Поўэл, стары сабакар.

29-I 1932
Менск.

ІЛ. БАРАШКА.

# Нататкі пісьменьніка

## НЕЛЬГА СЯДЗЕЦЬ НА ДВУХ КРЭСЛАХ

Сёлетняй гарачай вясною лошніцкая партыйная ячэйка фактычна без сакратара. Гэты факт мяне абурае. А яно так на самай справе. Бо сакратар сельсавецкай ячэйкі таварыш Пётра Аляксеевіч Гаўрыльчык адначасова зьяўляецца старшынёю колгасу, у склад якога ўваходзіць трыццаць і сем гаспадарак вёскі Лошніцы. У колгасе „Хваля рэволюцыі“ былі непарадкі. Вялікія непарадкі. Нават быў такі час, калі страчана ўпэўненасьць была ў тое, што ўсе колгасныя землі будуць засеяны. Ячэйка вырашыла мудра: будзёнавец з блакітнымі вачмі, таварыш Гаўрыльчык справіцца з двума работамі. Гаўрыльчык ня справіўся. Райком партыі запісаў яму вымову за слабае разгортваньне тэмпаў сяўбы па сельсавеце, а сельсавет газэта „Бальшавік Барысаўшчыны“ занесла чорную дошку. Сельсавет заняў месца на чорнай дошцы па заслугах—на дваццаць пятае мая асеяна па сельсавеце ўсяго трынаццаць процанзаў яравога кліну, у той час, як суседнія сельсаветы амаль што справіліся з выкананьнем плянаў. Я адчуваю некаторую зьбянтэжанасьць таварыша Гаўрыльчыка. Ён ня ведае, за якую работу ўзяцца—ці за сакратарства, ці за старшынства ў колгасе „Хваля рэволюцыі“... Яшчэ да пастановы бюро Лошніцкай парт'ячэйкі, у якой гаворыцца: „прасіць райком даць ячэйцы новага сакратара,“ таварыш Гаўрыльчык аднаго дню раньнім раньнем бярэцца за параконны плуг і першым едзе на поле колгасу. Бо ў колгасе прарыў кожная рабочая адзінка мае вялікую каштоўнасьць у такі гарачы, адказны час.

Прыклад аўторытэтнага таварыша мае станоўчыя вынікі.

## АГАРОДЫ

— Я сёньня буду працаваць на м а і м агародзе. а калі ўпраўлюся з агародам, пайду працаваць у колгас, — так гаворыць адзін, другі, трэці, чацьверты і пяты колгасьнікі з колгасу „Хваля рэволюцыі“, робячы націск на „маім агародзе“. Мой агарод, мая карова з аднаго, колгасны конь, колгаснае поле—з другога разуменьня.

Калі вышла пастанова аб тым, што кожны колгасьнік можа мець агарод для уласных патрэб, апэтыты пачалі павялічвацца. У колгасе „Хваля рэволюцыі“ яны дайшлі да двух гэктараў агароду ў паасобных выпадках. Чую я ад партыйнай часткі колгасьнікаў.

— Так і цягне да ўласнасьці... Так і імкнуцца акапацца ў сваім агародзіку ад працы ў колектыве... У разуменьне колгасьніка Наумаўца укладаецца паняцьце, што колгаснага каня можна ўзяць для працы на сваім, уласным агародзе проста, бяз спросу, з начлегу, і аніяк ён не разумее, што ў інтарэсах усяго колектыву пасеяць у першую чаргу раньнія культуры на прасторных колгасных палёх.

У Наумаўца сіла ўласнасьці. Сваёй, уласнай, абмежаванай, як гэтыя два гэктары агароду. Нельга адмовіць Наумаўцу, Баско ды іншым у тым, што яны не разумеюць сутнасьці колектыўнай гаспадаркі. Яны разумеюць. Яны за колгас. Яны адчуваюць на кожным кроку, што перавага за колектывам. І ўсё-такі іх старое трымае ў руках. Быць можа тут доля тых цяжкасьцяй і непаладкаў, якія існуюць у колгасе? Быць можа тут імкненьне мець свой уласны качан капусты, корч бульбы, пуд обмешкі? Думаю, што не, бо мінулагодні ўраджай колгасу—быў ураджаем усіх колгасьнікаў „Хваля рэволюцыі“ і пашырэньне азімага кліну ўвосень мінулага году ў колгасе было нават большым за пляны. Туг справа ў рэштках старога, як струхнелая хата колгасьніка Баско, укладу думак і паняцьцяў, якія павінны сьмела і ўпарта выкарчоўвацца з галоў прыкладамі ўзорнай колектыўнай соцыялістычнай працы з боку перадавых колгасьнікаў, і ў першую чаргу вясковых комуністаў.

## МОЙ БЫЛЫ КОНЬ...

Подвечар. Заходзіць сонца. Падводзяцца вынікі работы за дзень. Рахункавод зьбірае весткі ў брыгадзіраў для зводкі. Старшыня колгасу таварыш Гаўрыльчык цешыцца ад ударнай работы брыгадзіра паляводчай брыгады, які з белым лістком паперы накіроўваецца да нас.

# СЯЎБА БАВОЎНЫ



Калгасьніцы туркменкі за матыжэньнем перасадачнай эгіпецкай бавоўны.



Высадка ў грунт расады эгіпецкай бавоўны ў калгасе „Кзыл. Омач“.



Завод „Чырвоны аксай“. Лепшы ўдарнік ніжне-мэханічнага цэху т. Довак.

## УНОЎ ПАБУДАВАНАЯ ДОМНА № 1 ДНЕПРАПЯТРОЎСКУ



— Лепшы ударнік нашага колгасу! Сядай. Куры і кажы...

Брыгадзір садзіцца... Са смакам круціць папіросу. Яму гадоў пад сорак.

— Спрацаваўся за дзень... Зямля цяжкая... На тры пары—га...

Двое начлежнікаў (хлопцы па гадоў пятнаццаць. Кожнаму упісваецца працадзень за догляд дзесяцёх коняй) выпускаюць статак коняй з колгаснага двара.

— Дык вы, хлопцы, жывей!—робіць заўвагу старшыня.

Коні, апусьціўшы галовы, спрацованыя, брыдуць каля нас, па вясковай вуліцы. Шавеляцца маладою ліствою стагоднія таполі.

Раптам загараюцца вочы ў брыгадзіра паляводчай брыгады. Ён перарывае гутарку, бяжыць да коняй, прабіваецца да аднаго з іх, адхінае з вачэй каня пучок валосьсяў, пальцамі рашчосвае грыву і па-таварыску гладзіць далоньню па конскай шыі... Бярэ за кантар, падводзіць да нас:

— Мой конь... на другім полі працаваў...

— Колгасны конь,—папраўляе таварыш Гаўрыльчык.

— Так, колгасны... мой былы конь... выпраўляе памылку брыгадзір паляводчай брыгады, і выпускае каня.

Выпадковая рэпліка другога брыгадзіра выдае яго з галавою.

— Увесь час непакоіцца. Думае—што другія горшыя гаспадары за яго... Думае—ня ўмеюць абыходзіцца з канём...

Калі разышліся ўсе колгасьнікі адпачываць, я занатоўваю гэты факт, каб падкрэсьліць папярэдні запіс.

## БРЫГАДЗІРЫ

Я ня ведаю ні Лабунскага, ні Мухіна. І ўсё-ткі, прыходзіцца пісаць пра іх, бо калі быў сход у калгасе „Чырвоныя галубы“, іхнія прозьвішчы зьмяншалі віну старшыні колгасу ў тым, што ў колгасе на сёнешні дзень ня ўведзена зьдзельная аплата працы, няма працоўных кніжак на руках колгасьнікаў, ня ўпісваюцца. зразумела, і працадні, існуе абязьлічка і ўраўнілаўка.



Партыя першых падшыпнікаў цалкам з савецкіх матэрыялаў заводу Шарыкападшыпнік імя Кагаковіча.

Лабунскі і Мухін—брыгадзіры. Яны каля двух месяцаў (яшчэ сьнег ляжаў,—гавораць колгасьнікі) сядзелі ў „Чырвоных галубах“ і нічога не зрабілі.

— Такія брыгадзіры не патрэбны нам — так і заяўлялі таварышы колгасьнікі, даючы характарыстыку іхняй работы ў колгасе „Чырвоныя галубы“... Няхай гэта будзе да ведама і барысаўскіх організацый, што пасылаюць такіх брыгадзіраў.

Думка аб брыгадзірах. Мы пасылаем часта ў вёску за брыгадзіраў такіх таварышоў, якія ня ведаюць вёскі, якія ня могуць быць організатарамі соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі, а іменна, сядзяць у якасьці прадстаўнікоў. Прызнаюся, я ня мог спакойна глядзець, калі новы брыгадзір у тых самых „Чырвоных галубах“—санітарны інспэктар г. Барысава Чычкоўскі, слова ў слова сьпісваў з газэты „Бальшавік барысаўшчыны“, рэзалюцыю аднаго з калгасных сходаў Барысаўшчыны з тым, каб пасьля, на сходзе, у якасьці свайго проэкту, ня ўлічыўшы ўмоў у колгасе „Чырвоныя галубы“,—прапанаваць яе... Прызнаюся далей, я ня мог утрымацца ад сьмеху, калі гэты-ж брыгадзір Чычкоўскі на сходзе па пытаньні аб веснавой сяўбе супакойваў колгасьніцу Шутко так:

— Мадам Шутко... Мадам Шутко... Мадам Шутко больш конкрэтнасьці і дзелавітасьці... да справы...

Да рэчы аб Чычкоўскім.

Прызначаны ў пачатку веснавой сяўбы за брыгадзіра ў Лошніцкі сельсавет, Чычкоўскі быў накіраваны ў колгас „Чырвоныя галубы“ партыйнай ячэйкай. У колгасе ён прабыў некалькі дзён. Прызначыў сход, а сам пашоў у сельсавет, у Лошніцы. Колгасьнікі на сход сабраліся. Прышлі і аднаасобнікі. Чакалі Чычкоўскага гадзіну, дзьве, тры, чатыры... Каб яны яго чакалі, дык і да 25 мая—апошняга тэрміну сяўбы не дачакаліся-б, бо, не паведаміўшы ні ячэйцы, ні сельсавету, ён зьнік, і знаходзіўся ў Барысаве...

Чычкоўскі кажа, што захварэла была жонка. Я, быць можа, і „бяздушна“ адказаў:

— А тут хварэе сяўба...

Нарэшце я спатыкаю таго самага брыгадзіра, пра якога так многа гавораць у Лошніцах, у Мужанцы.

Гэта малады, з поўнымі жыцьця і ўпартасьці вачыма, каранасты шырокаплечы таварыш Сьпічкоў.

— Пра вас многа гавораць,—заўважваю Сьпічкову.

— Гавораць—няхай гавораць, адказвае мне ўсьміхаючыся грузчык з барысаўскай станцыі Сьпічкоў,—а я працую...

Таварыш Сьпічкоў сапраўды працуе. Ён парадай, ён справай дапамагае колгасу „Чырвоная Мужанка“ заняць на сяўбе першае месца ў сельсавеце. Раніцою, ён разам з колгасьнікамі бярэцца за плуг, а па вечарох ламае галаву над тым, каб заўтра з раньня зрабіць правільную расстаноўку сіл, змагаючыся за пяцьдзесят два гэктары яравога. Ён дамогся акуратнага выхаду ў поле, уліку працы і ўвядзеньня зьдзельшчыны.

Сьпічкоў—процілегласьць Лагунскага і Мухіна. І нават—Чычкоўскага.

Пісьменьнік мае права любіць гэроя свайго твору. Я люблю Сьпічкова.

## АЎСЯНЫЯ СПРАВЫ

— Хадзяйку пад прыпечкам пахаваю, калі з голаду памру,— гіронічна сказана аднэй з бяднячак Лошніцкага сельсавету па адрасу старшыні комітэту сялянскай узаемадапамогі. Сказана па праву.

Старшыня стаіць са сьпісам у руках на парозе амбару, выклікаючы прозьвішчы тых, у каго нехапае насеньня, тых, хто падалі заявы, тых, каму адпушчана насеньне. Перад амбарам групы аднаасобнікаў.

Уваходзім у амбар. Пах прэлага аўсу вісіць у паветры... Авёс сапрэў. Чатырыста пудоў аўсу сапрэла па недагляду. Цэлую зіму і вясну ніхто з комітэтчыкаў не пацікавіліся станам насеньня. І як вынік—авёс напалову сапрэў. Аграном Крывіца лічыць:

— Усхожасьць аўсу пяцьдзесят процантаў. Старшыня сельсавету лічыць:

— Семдзесят процантаў.

Старшыня Касяў абыякава глядзіць на досьледы і працягвае раздачу. Спакой старшыні нэрвуе. Злачынны спакой. Так можа адносіцца да гэтага факту альбо дурань, альбо вораг...

На двары лаянка і праклёны:

— Згнаілі авёс...

— Каб ім дабра... Шкада зямлі... Хіба на рост...

У той-жа дзень, позна ўначы, засядала бюро партыйнай ячэйкі. Ухвалена — прасіць фракцыю сельсавету прыцягнуць старшыню Касява да судовай адказнасьці за порчу на гэтулькі каштоўнага багацьця—насеннага аўсу.

Відаць будзе суд. Ня двусэнсова было сказана бяднячкай:

— Хадзяйку пад прыпечкам пахаваю, калі з голаду памру.

## Ш Т У Р М

Прыказкі вушы коляць сваёй струхнеласьцю, старынкай.

— Як зацьвіце казелец, будзем авёс сеяць, а покуль не зацьвіў—чакацьмем...

— Пакуль жыта ў пучках—авёс пасееш—ня будзе аўсу ў мужычка...

— Сёньня дзевятуха... а авёс сеяць пасьля дзесятухі...

Сяўба ішла самацёкам. Партыйнага кіраўніцтва ня было... Комуністы і комсамольцы ігнаравалі дырэктывы партыі—на полі працаваў адзін Гаўрыльчык. Брыгадзіры ня былі на сваіх мясцох. Расстаноўка сіл была праведзена дрэнна. Адходніцтва прыняла вялікія памеры, нікім не плянаваўся ўлік рабочай сілы. МТС, што знаходзіцца на тэрыторыі Лошніцкага сельсавету, усе свае трактары кінула ў другія небясьпечныя месцы. Школы, настаўніцтва, у сяўбе ня ўдзельнічала.

Дваццаць пятага мая прышла пошта.

Прынесла з сабою: На від дырэктару МТС. Вымову сакратару ячэйкі. Чорную дошку сельсавету. Штурм сяўбы.

Дваццаць сёмага на Прыямінскай фэрме адразу працавала восем трактароў, сорак коняй.

Дваццаць сёмага ўсе партыйцы і комсамольцы вышлі на поле.

Дваццаць сёмага праца ў колгасе пачалася ў шэсьць гадзін раніцы.

Дваццаць сёмага заварушылася настаўніцтва, школьнікі.

— Штурм!

А дваццаць шостага, перад штурмам, на сходах гаварылі, думалі так:

— Што-б не маніць, а зрабіць... да пятага чэрвеня скончым сяўбу...

# УСЕБЕЛАРУСКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ПА ВЫПРАЦОЎЦЫ ПЛЯНУ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАЙ РАБОТЫ БССР У ДРУГОЙ ПЯЦІГОДЦЫ



Дэлегат канфэрэнцыі акадэмік Афанасьеў. Дырэктар агро-глебавага інстытуту БАН.




Прэзыдыум канфэрэнцыі

25 мая ўвечары ў доме Камасьветы адкрылася Ўсебеларуская канфэрэнцыя па навукова-дасьледчай рабоце ў БССР у другой пяцігодцы. На канфэрэнцыю прыбыло 190 дэлегатаў.

На парадку дня канфэрэнцыі стаялі наступныя пытаньні: 1. Народна-гаспадарчы плян БССР у другой пяцігодцы — даклад старшыні Дзяржпляну БССР т. Шапіра, 2. Навукова-дасьледчая работа ў БССР у другой пяцігодцы—даклад прэзыдэнта БАН тав. Горына, 3. Работа сэкцый.



Дэлегат канфэрэнцыі проф. Прылежаеў дырэктар хэмічнага інстытуту БАН



У залі канфэрэнцыі фото Грына

УС. ШЫДЛОЎСКІ

# НАШЫ ДЗЕЦІ









ДЭМОНСТРАЦЫЯ ПІАНЭРАЎ І ШКОЛЬНІКАЎ У ДЗЕНЬ ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЯ ПІОНЭРОРГАНІЗАЦЫІ Ў МЕНСКУ

## Я хачу паказаць АДНАГО, каб у ім гаварылі ТЫСЯЧЫ

А. БЯЗЫМЕНСКІ

Я наведаў адну гарадзкую ФЗС.

Майскі сонечны дзень струнна пераліваўся колерамі веснавой прыроды, скаванай гарадзкімі рамкамі. Пахла чаромуха, якая нахінулася цераз плот невялікага школьнага двара. На вуліцы зьвінелі трамваі. Гучнагалосыя і манатонныя радыёрэпрадуктары гублялі ў гарадзкім шуме хрыпатыя словы.

Зазьвінеў званок. Вялікі 30-ціхвілінны перапынак. Пасьля цішыні і ўвагі, калідоры і клясы напоўніліся бадзёрым шумам, бегатнёй і крыкамі дзяцей.

Малы 10-гадовы хлапчук выбег з клясы на сонечны гладкі двор школы і крыкнуў:

— Хлопцы, даёш валейбол!

Вецер заварачваў на бок чырвоны гальштук, які вісеў на яго загарэлай шыі.

— Даёш, хлопцы, чаго стаіце!—крыкнуў ён у другі раз.

На двор выбегла цэлы гурт вучняў. У большасьці на шыйках разьвіваліся чырвоныя гальштукі. Яны піанэры. Дружна ўзяліся гуляць у валейбол. З дзіцячым задорам і кволай наіўнасьцю пачалі яны перакідаць цераз нацягнутую сетку мяч, спрытна падбіваючы яго рукамі.

Калі да званка засталося 10 хвілін, хлапчук скамандаваў:

— Досыць! Перад лекцыямі трэба адпачыць.

Твар яго сьвяціўся радасьцю. Я крануў яго за плячо.

— Кожны перапынак у валейбол гуляеце?

— Кожны. А што?—спытаў ён.

— І заўсёды арганізавана?

— Ну факт. Ёсьць пастанова аб тым, каб арганізавана праводзіць перапынкі. Фізкультурай займацца. Вось я член вучкому і мне даручылі наладзіць гэту работу.

— У якой ты групе вучышся?

— У трэцяй і ўжо хутка ў чацьвертую перавядуць... Ударнік у вучобе я...—і ў вачох яго загарэліся два маленькія агеньчыкі.

— А як цабе завуць?

— Юрка. І бацька мой таксама Юрка завецца. Ён на дрэваапрацоўчым заводзе працуе.

— А скажы ты мне, якую партыя задачу паставіла перад піанэрамі?

— Г... Хіба ня ведаю... На зьвяне разьбіралі аб пастанове партыі. У ёй сказана, што піанэры павінны за якасьць вучобы змагацца і дысцыпліну наладзіць.

— Ну і як-жа вы змагаецеся?

— Мы абавязкі на сябе узялі... І ўдарнікі ўсе. Наша зьвяно вучыцца добра. На чырвоную дошку яго запісалі. А я яшчэ памагаю Міхасю, што ў другім зьвяне. Ён у нас адстае па задачах. Дык вось мне і даручылі дапамагаць яму. І я дапамагаю. Факт. Яшчэ мы ў конкурс на лепшую школу ўключыліся..

Ён абвёў вачамі ўвесь школьны двор, абцёр на твары крупінкі поту, якія выступілі ад гульні ў валейбол, і потым крыху падумаўшы, спытаў мне.

— А вы, таварыш, пра наша дзесяцігодзьдзе чулі?

— Гэта пра якое?—прыкінуўся я нязнайкаю.

— Ды пра наша, піянэрскае. Дзесяцігодзьдзе піянэрарганізацыі. Яно праводзіцца з 23 мая па 1 ліпеня. Наша сьвята!.

Званок перарваў нашу гутарку і Юрка пабег у клясу.

* * *

2-гі кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыяналу моладзі, які сабраўся ў 1921 годзе, вынёс пастанову аб неабходнасьці таго, „каб пралетарскія дзеці прымалі адпаведна сваім дзіцячым сілам і здольнасьцям удзел у вызваленчай барацьбе свае клясы".

На гэтую пастанову кангрэсу КІМ адгукнуліся пралетарскія дзеці зарубежных краін. Пачалі арганізоўвацца камуністычныя групы дзяцей у Швэйцарыі, Германіі, Францыі, Аўстрыі і др. краінах.

У краіне Саветаў актыўнасьць дзяцей расла разам з ростам перамог рабочай клясы, расла пад уплывам аддаленай гэраічнай барацьбы працоўных на франтох грамадзянскай вайны.

Другая канфэрэнцыя РКСМ, якая адбылася ў маі 1922 г., запісала ў сваіх пастановах наступнае: „прымаючы пад увагу настойлівую неабходнасьць самаарганізацыі пралетарскіх дзяцей, Усерасійская канфэрэнцыя даручае ЦК распрацаваць пытаньне аб дзіцячым руху".

Тады-ж пачалі арганізоўвацца першыя дзіцячыя арганізацыі. Яны стваразіся пад рознымі назвамі: „Пасеўкомы", „Дзіцячыя гарсаветы", „Дзяткомы" і інш.

У 1922 г. у Маскве арганізаваліся першыя піянэрскія атрады. Рос і пашыраўся дзіцячы камуністычны рух. Асабліва значны быў рост у дні правядзеньня другога Міжнароднага Дзіцячага Тыдня ў 1922 г.

Такія-ж дзіцячыя камуністычныя групы пачалі арганізоўвацца і на Беларусі. Часопіс „Асьвета" так, напрыклад, расказвае аб утварэньні „Дзіцячага камітэту" ў Менску:

„Першыя дзіцячыя ячэйкі Беларусі арганізаваліся з дзяцей камуністаў. Так узьнікла зімою 1921—22 году ў Менску першая дзіцячая камуністычная ячэйка, якая назвала сябе „Дзіцячым камітэтам". Адшукаўшы пад вялікім сакрэтам разбураны флігель, дзе раней зьмяшчаўся ЦК яўрэйскай камуністычнай партыі, дзеці пралезьлі туды праз вокны і хутка з пакояў быў абсталёваны штаб „Дзіцячага камітэту", дзе і пачалася работа па арганізацыі клюбу, пачаліся паседжаньні, вечары".

Крыху пазьней дзіцячыя камуністычныя арганізацыі пад кіраўніцтвам камсамолу пачалі арганізоўвацца ў другіх гарадох часопіс Беларусі. „Беларускі піянэр" аб першых днёх Віцебскай арганізацыі піша так:

„К 1 чэрвеня 1923 г. на дзьвярох Віцебскага губкому КСМ была вывешана абвестка: „Дзеці рабочых, уступайце ў рады юных піянэраў. Запіс робіцца тут". З гэтага часу валілі дзеці групамі запісвацца ў піянэры. Ня было адбою. Ужо ў пачатку чэрвеня запісалася каля 300 чалавек. Усе чакалі першага дню збору, і, урэшце, дачакаліся 9 чэрвеня, сонечны дзень, а 4 гадзіне дню на „Усьпенскай горцы" поўна дзяцей,—чакаюць „начальнікаў" з губкому. А 5 гадзіне пачулася каманда „Стройся ў адзін шэраг".

Пачалі выбіраць 1-ю групу ў піянэры. Выбралі ўсяго 48 чалавек, а астатніх абяцалі прыняць праз некаторы час. 48 шчасьлівых падзяліліся па „патрулі" і першай справай,—гэта трэба было навучыць іх строю. Пасьля страявых заняткаў была праведзена першая гутарка пра Карла Лібкнэхта і Спартака, а пасьля гэтага разышліся".

Пленум Цэнтральнага Камітэту РКСМ, які адбыўся ў 1924 г., пастанавіў перайменаваць дзіцячыя камуністычныя арганізацыі СССР у дзіцячыя камуністычныя групы імя Леніна.

23 мая 1924 г. у Маскве адкрыўся XIII зьезд Камуністычнай партыі. У гэты дзень на Чырвонай плошчы перад маўзалеем Леніна піянэры Масквы, прыняўшы імя Леніна, давалі ўрачыстае абяцаньне.

Сакратар ЦК камсамола на ўрачыстасьці перайменаваньня ЮП гаварыў:

— Таварышы юныя піянэры! Ад імя ЦК камуністычнага саюзу моладзі абвяшчаю аб тым, што юныя піянэры

Фото І. Салавейчыка і Шышко.




Менск. Акцябраты праяжджаюць каля трыбуны на Пляцу волі.



Сьвяткаваньне дзесяцігодзьдзя піонэрорганізацыі ў Гомелі.



„Іменна ёй, гэтай моладзі, трэба будзе закончыць, завяршыць справу комунізму, іменна яе яшчэ чакаюць бai за комунізм і яна гэтыя баі павінна сустрэць моцнай, здаровай,—са сталёвымі нэрвамі і жалезнымі мускуламі".

ЛЕНІН.

# провокацыйны стрэл у Парыжы



**Забойца французскага прэзыдэнта Думэра белагвардзееец Павел Гаргулаў**

6 мая г. г. на выстаўцы кнігі ў Парыжы, арганізаванай пісьменьнікамі—удзельнікамі сусьветнай вайны, белагвардзейцам, фашыстам Гаргулавым быў забіты прэзыдэнт французскай рэспублікі Думэр. Гэты стрэл белабандыта кінуў яркае сьвятло на тую агідную провокацыйную работу, якая вядзецца імпэрыялістычнымі драпежнікамі, пры актыўным падтрыманьні соцыял-інтэрвэнтаў, па падрыхтоўцы вайны супроць Савецкага Саюзу.

На першым-жа допыце забойца адкрыта заявіў, што ён забіў прэзыдэнта з мэтаю выклікаць вайну паміж Францыяй і СССР. Гэтая формуліроўка фашыста Гаргулава на сваёй мэтаімкнёнасьці да крайнасьці падобна да формуліроўкі Іуды Штэрна, які зрабіў замах на дарадцу германската пасольства ў Маскве фон-Твардоўскага з мэтаю выклікаць конфлікт паміж СССР і Германіяй. І тут і там адна мэта—пагоршыць міжнароднае становішча СССР, спровакаваць краіну Саветаў на вайну.

Стрэл Гаргулава, падобна стрэлу ў Сараеве ў 1914 г., павінен быў паслужыць імпэрыялістам сыгналам да зброенага паходу на Савецкі Саюз. Нездарма польская буржуазная прэса, добра асьвядомленая, што робіцца за кулісамі французскага генштабу, на другі-ж дзень пасьля забойства прэзыдэнта назвала стрэл Гаргулава—*стрэлам у Сараеве.*

І сапраўды, французскі ўрад Тард'е ўжыў усе намаганьні для таго, каб выкарыстаць забойства прэзыдэнта, як для сваіх выбарчых мэт, так і для разрыву дыплёматычных адносін з СССР і спровокаваньня вайны.

На другі дзень пасьля забойства, калі стала вядома, што ў Думера страляў рускі, Тард'е выклікаў да сябе журналістаў, вылаяў іх за неразуменьне моманту і адсутнасьць сапраўднага палітычнага нюху і аддаў загад пусьціць вэрсію аб „нэобальшавізьме" забойцы прэзыдэнта—белагвардзейца Гаргулава.

Гэта провокацыйнае комюнікэ французскага ўраду павінна было ўсю нянавісьць французскай дробнай буржуазіі, французскага абываталя да забойцы накіраваць супроць СССР, каб прыступіць да ажыцьцяўленьня сваіх злачынных плянаў інтэрвэнцыі супроць краіны Саветаў. Надзвычай ясна формулюе гэты пункт погляду рэакцыйная газэта *„Морнінг Пост"*. Ужо ў першых сваіх водгуках на забойства Думэра, газэта прымушана прызнаць, што Гаргулаў не анархіст і не комуніст, але ўсё-ж яна заяўляе, што стрэл Гаргулава ёсьць рэзультат... рэволюцыі. „Стрэл Гаргулава—заяўляе газэта—павінен напомніць дзяржаўным дзеячам Эўропы аб неабходнасьці агульнай узгодненай палітыкі супроць таго, што зьяўляецца самай вялікай пагрозай для эўропэйскай цывілізацыі, інакш кажучы, супроць бальшавізму, супроць Савецкага Саюзу".

Іменна ва ўсіх нязьлічоных выступленьнях буржуазных борзапісцаў усіх краін чырвонаю ніткаю праходзіць адна думка, іменна, што з цяперашняга крызісу для капіталізму ёсьць адзін выхад,—*гэта вайна і вайна ва што-б там ні стала.*

Атрымаўшы заданьне ад французскага імпэрыялізму—зрабіць белабандыта Гаргулова „нэо-бальшавіком", агентам Комінтэрну", прадажныя бандыты пяра пачалі выдумляць пра белабандыта Гаргулава провокацыйныя вэрсіі адна за другую дурнейшыя. Раптам белагвардзеец-фашыст зрабіўся „чэкістам Залатаровым", потым „чэкістам з Растову" і г. д. Паслужлівая-ж прэса фашысцкай Польшчы зрабіла яго „варшаўскім комуністам, які яшчэ ў 1915 годзе арганізоўваў камуністычныя ячэйкі ў Варшаве і быў амаль не паплечнікам Антонава-Аўсеенкі".

Орган французскай компартыі „Юманітэ" выкрыў да канца ўсе провокацыйныя манэўры французскага імпэрыялізму, паказаў, хто такі Гаргулаў, хто стаяў за яго плячыма, хто быў натхніцелем і арганізатарам гэтага провокацыйнага забойства. Апрача таго, калгасьнікі станіцы Лабінскай, адкуль Гаргулаў, чырвоныя партызаны і былыя чырвоныя камандзіры Паўночнага Каўказу, якім прышлося змагацца супроць белагвардзейшчыны, у тым ліку і супроць Гаргулава, выкрылі гэтага белабандыта да канца. Нарэшце, сама матка белабандыта прызнала ў Гаргулава свайго сына. Як паведамляе тэлеграф, нават сам Гаргулаў на апошнім допыце судзьдзёю-сьледчым Фужэры 2-га чэрвеня, таксама прызнаў факсыміле на здымку яго маткі, надрукаваным у газэце „Правда". Гаргулаў на апошнім допыце 2 чэрвеня зноў пацьвердзіў тое, што ён сказаў на першым сваім допыце, а іменна, што „ён забіў прэзыдэнта, каб спровокаваць вайну супроць Савецкага Саюзу".

Ня гледзячы на ўсё гэта, ня гледзячы на ганебны правал, на працягу якіх-небудзь пары тыдняў дзесяткаў розных провокацыйных вэрсій аб тым, што Гаргулаў зьяўляецца „нэобальшавіком", „агентам Комінтэрну", французская ахранка не здаецца. Яна накіроўвае сваіх комісараў у Прагу, Бэльгію, Германію, Польшчу за новымі „чырвонымі доказамі" супроць Гаргулава. Аднак дарэмныя спробы.

Французская буржуазная прэса ў апошнія часы прымушана біць адбой, прызнаючы такім чынам поўны правал сваёй провокацыйнай кампаніі, накіраванай да разрыву адносін з СССР.

Гаргулаў зьяўляецца заядлым контррэвалюцыянэрам-белагвардзейцам, які актыўна змагаўся супроць савецкай улады, зьяўляецца актыўным дзеячом белагвардзейскага руху заграніцай, цесна зьвязаным з парыскімі, бэрлінскімі, варшаўскімі белагвардзейскімі коламі, з французскім генштабам, зьвязаным з вядомым чэха-славацкім генэралам Гайдай. Правал вэрсіі аб Гаргулаве, як аб „бальшавіцкім агенце" скомпромэтаваў французскую ахранку, скомпромэтаваў імпэрыялістычныя колы буржуазнай Францыі. Для выратаваньня свайго прэстыжу, а таксама для таго, каб выгарадзіць, захаваць белагвардзейскія колы, што стаялі за плячыма Гаргулова, ахранка стараецца знайсьці выхад. Ствараецца вэрсія аб вар'яцтве Гаргулава, каб гэтым даказаць французскай грамадзкасьці, што за плячыма Гаргулава ніхто не стаяў, што тэрорыстычны акт Гаргулава зьяўляецца індывідуальным актам. Гэтым яны стараюцца выгарадзіць белагвардзейцаў, захаваць іх, як перадавы атрад буржуазіі ў будучай вайне супроць СССР.

Французская ахранка стараецца замесьці сьляды. Буржуазная французская прэса моўчкі абышла той факт, што забойства Думэра белабандытам выклікала рэзкае абурэньне сярод працоўных Францыі. Яна ўтаіла той факт, што на Монпарнасе, дзе жыве большасьць белагвардзейцаў, усю ноч пасьля забойства адбываліся бурныя сцэны, што белагвардзейцы не адважваліся нават голасна гаварыць на вуліцах Парыжу, што ўсе іх кафэ і крамы былі зачынены, каб унікнуць разгрому і што некаторыя кафэ былі тым ня менш разгромлены. Французская прэса замаўчала гэты факт.

Стрэл „Гаргулава—не выпадковае зьявішча, не выпадковае выступленьне „паўвар'ята", якім стараецца прадставіць белабандыта буржуазная французская прэса, ня гледзячы на тое, што *экспэрты псыхіятры прызналі яго зусім здаровым. Забойства Думэра зьяўляецца арганізаваным актам пэўных белагвардзейскіх колаў, зробленым з ведала парыскай ахранкі і французскага генштабу, і накіравана для спровокаваньня СССР на вайну. Стрэл Гаргулава—гэта трывожны сыгнал аб набліжэньні ваеннай небясьпекі, якая з кожным днём становіцца ўсё больш рэальнай.*

Ня гледзячы на ўсе провокацыі імпэрыялістаў, працоўныя Савецкага Саюзу, занятыя мірным будаўніцтвам соцыялізму, пад кіраўніцтвам компартыі і яе правадыра тав. Сталіна, няўхільна будуць і далей весьці палітыку міру. У адказ натхніцелям інтэрвэнцыі, падпальшчыкам вайны, працоўныя краіны Саветаў яшчэ больш узмоцняць тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, узмоцняць намаганьні па ўмацаваньні баяздольнасьці нашай слаўнай Чырвонай арміі для таго, каб у патрэбную хвіліну даць зьнішчальны адпор усім тым, хто адважыцца парушыць іх мірнае будаўніцтва соцыялізму. **С. Ж.**

# ЛЯГЕРНАЯ ВУЧОБА ПАЧАЛАСЯ




На адкрыцьці лягераў.

Зьлева направа на трыбуне: чр-ец т. Заслаўскі, нам. ст. СНК і Эканом. Савету БССР т. Калнін, камдзів т. Гонін, начподзів т. Таруцінскі, нам. стар. Астраханск. гарсавету т. Баркова.



Зьлева направа: команд. парадам камандз. N палка т. Гайдукоў рапартуе т. Калніну.

Праносяць баявыя сьцягі.





Кавалерыйскія спаборніцтвы каманднага складу.

Фото І. Салавейчыка

# Украінскі Чырвоназаводзкі Тэатр



Мастацкі кіраўнік УДЧТ заслужаны артыст УССР В. С. Васілько

З 28-га мая ў Менску ў памяшканьні яўрэйскага дзяржаўнага тэатру распачаў працу Украінскі Чырвоназаводзкі тэатр. Заснаваны ў дзень дзесяцігодзьдзя Кастрычніцкай рэволюцыі, тэатр зьяўляецца першым у гісторыі украінскага тэатру стацыянарным рабочым тэатрам. У пачатку сваёй працы (1927-28 г.) тэатр стыкнуўся з вялікімі цяжкасьцямі. Пракладваючы самастойныя шляхі рабочага тэатру. Чырвоназаводзкаму тэатру давялося сустрэцца з неразуменьнем задач рабчага тэатру вытрымаць барацьбу з ухіламі да старога „народнага“ тэатру.

У другім годзе працы, які распачаўся пад знакам выпраўленьня памылак, у першую чаргу было пастаўлена пытаньне аб ідэйна-палітычным і мастацкім кіраўніцтве. Дырэктарам, тэатру прызначан вылучэнец рабочы-мэталіст К. М. Доцэнкаі мастацкім кіраўніком запрошаны заслужаны артыст рэспубліка В. С. Васілько, які раней працаваў у тэатры „Бэрэзіль“ і одэскай дзярждраме.

Трупа была напоўнена высокакваліфікаванымі акторамі і таленавітай моладзьдзю. З мэтаю падрыхтоўкі кадраў і падвышэньня кваліфікацыі акторскага складу была разгорнута вялікая студыйная праца. Былі прыняты рашучыя захады да ўстанаўленьня цеснай сувязі з рабочым гледачом—наладжваліся выезды акторскіх брыгад на прадпрыемствы з інформацыйнымі дакладамі аб працы тэатру і г. д. Сыстэматычна працаваў мастацка-палітычны савет. У выніку праробленай працы пры тэатры быў створаны актыў рабочага гледача.

Лепшай пастаноўкай другога сэзону была фэерыя на рэволюцыйную тэму „Марка ў пекле“ Івана Качаргі. Апрача таго сталі—„Рэйкі гудуць“, „Квадратура кола“, „Сыгнал“, „Ле н Куцюр‘е“ і інш. Галоўным хібам у рэпэртуарным дачыненьні было тое, што рэпэртуар складаўся амаль цалкам з перакладных п‘ес.

Такім чынам на 1929-30 г. перад тэатрам паўстала задача павялічэньня ў рэпэртуары колькасьці арыгінальных украінскіх п‘ес. Тэатр гэту задачу пасьпяхова выканаў, узяўшы правільную ўстаноўку на прыцягненьне да працы тэатру маладых драматургаў. З сямі пастановак сэзону толькі адна—„Горад вятроў“—Кіршона—перакладная п‘еса. Астатнія пастаноўкі—пераважна п‘есы маладых украінскіх драматургаў. Лепшымі пастаноўкамі сэзону былі—„Дыктатура“—пролетарскага драматурга Івана Мікітэнкі, на тэму клясавага змаганьня на вёсцы і „Комсамольцы“—Першамайскага, на тэму пра героічную барацьбу комсамолу на фронце грамадзянскай вайны.

З гэтымі пастаноўкамі тэатр прымаў удзел у I усесаюзнай олімпіядзе мастацтваў народаў СССР. Олімпіяда для Чырвоназаводзкага тэатру была вырашальным вузлавым этапам на шляху яго далейшага разьвіцьця. Абмен вопытам на алімпіядзе паміж тэатрамі іншых братэрскіх рэспублік, ацэнка прац тэатру журы алімпіяды і водзывы маскоўскай тэатральнай крытыкі. дзе ў асноўным была падкрэсьлена палітычная сьпеласьць тэатру і паказана на хібы, якія тэатрам павінны



Кадры. Паст. В. Васілько. Мастак Э. Хвостоў.



Страх. Паст. В. Васілько



Катарскія матросы. Паст. Лазурэнка
Афарм. брыгады мастакоў-студэнтаў выпускнікоў Харкаўск. мастацк. інстытуту



Слуга двух паноў. Мастак Д. Кульбак
Пастаноўка Б. Шнэйдэрман



**Днепрабуд. Найвялікшая ў сьвеце турбіна**



**Ленінгр. вобласьць. Фідэрная станцыя першага ў СССР алюмініевага комбінату**



**„Чырвоны пуцілавец“. Канвэер мэханазборачнай майстэрні трактарнага заводу**

быць зьнішчаны,—усё гэта паказала тэатру на неабходнасьць перагляду свайго творчага шляху.

Галоўным хібам указаным у ацэнцы журы быў яшчэ нявыжыты тэатрам на тым этапе груз „бытаўшчыны“. Пасьля алімпіяды з удзелам кіруючых савецкіх, партыйных і профэсыянальных організацый тэатр быў грунтоўна рэарганізаваны. Консэрватыўная частка акторскага складу была заменена моладзьдзю. Уся праца тэатру была перабудавана паводле мэтодаў соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Асобна трэба адзначыць зьбліжэньне на алімпіядзе з Першым Дзяржаўным беларускім тэатрам, якое прывяло да падпісаньня соцыялістычнай умовы. Сувязь паміж тэатрамі ўмацоўвалася яшчэ і па лініі абмену рэпэртуарам. У асобным квартале 1930 г. ДЧТ паставіў п'есу беларускага пролетарскага драматурга Рыгора Кобеца „Гута“, прадэманстраваўшы перад украінскай пролетарскай грамадзкасьцю дасягненьні пролетарскай драматургіі братняй рэспублікі. Сувязь паміж тэатрамі яшчэ больш узмацнілася ў час гастроляй БДТ1 у Харкаве ў маі 1931 г. Тады-ж былі падведзены вынікі выкананьня соцыялістычнай умовы на 1931 г.

У 1931 г. ДЧТ, працягваючы ўзяты курс на выяўленьне маладых драматургаў, паставіў п'есы В. Гжыцкага — „Наступ“ і О. Карнейчука— „Штурм“. Адной з лепшых сваіх пастановак тэатр лічыць „Кадры“ Івана Мікітэнкі. Гэтая п'еса зьявілася новым этапам на шляху творчага разьвіцьця тэатру. У пляне скарыстаньня клясычнай спадчыны была пастаўлена комэдыя К. Гольдоні „Слуга двух паноў“.

У 1932 г. тэатр два месяцы працаваў у падшэфным Горлаўскім раёне на Донбасе. Былі пастаўлены—„Гута“, „Штурм“, „Наступ“, „Слуга двух паноў“, „Кадры“ і „Комсамольцы“. Пасьля ўдарнай паездкі па Донбасу тэатр працаваў у Палтаве і Харкаве. За гэты час былі пастаўлены тры прэм'еры — „Гэй-Люсакава вежа“ Г. Каннэля, „Катарскія матросы“ нямецкага рэволюцыйнага драматурга Ф. Вольфа і п'еса рускага пролетарскага драматурга А. Афінагенава—„Страх“. Пастаноўку „Страх“ тэатр расцэньвае як значнае дасягненьне на шляху авалоданьня творчым мэтодам пролетарскага тэатру.

За пэрыод пасьля рэорганізацыі тэатр правёў вялікую ўнутрывыхаваўчую работу, была пастаўлена на належную вышыню вучоба па авалоданьні ленінскай дыялектыкай. Тэатр увесь гэты час трымаў цесную сувязь з пролетарскімі масамі, абслужыў сваімі агітпроп.-брыгадамі цэлы шэраг прадпрыемстваў.

5 студзеня 1932 г. у Доме пісьменьніка, у прысутнасьці МенАПП'у і тэатральнай грамадзкасьці Менску адбылося ўрачыстае падпісаньне ўмоў на 1932 г. на соцыялістычнае спаборніцтва паміж 1 Беларускім дзяржаўным тэатрам і Украінскім Чырвоназаводзкім тэатрам. Супрацоўніцтва двух тэатраў двух братэрскіх рэспублік зьяўляецца магутным фактарам у змаганьні за пролетарскае мастацтва соцыялістычнае па зьмесьце і нацыянальнае па форме. Гэта супрацоўніцтва ў далейшым павінна ўсё больш узмацняцца і павінна ісьці па лініі барацьбы за партыйнасьць мастацтва, па лініі змаганьня за высокую ідэйную і мастацкую якасьць пастановак, адпавядаючую нашай вялікай эпосе.

На Беларусь ДЧТ прывёз чатыры пастаноўкі— „Кадры“ І. Мікітэнкі, „Страх“ А. Афінагенава, „Катарскія матросы“ Ф. Вольфа і „Слуга двух паноў“ К. Гольдоні. Гастролі ДЧТ на Беларусі зьяўляюцца адказам на гастролі БДТ-1 на Украіне і зьяўляюцца фактарам усё большага ўзмацненьня сувязі паміж культурамі двух братэрскіх рэспублік.

Гастролі ДЧТ даюць магчымасьць працоўным Беларусі азнаёміцца з культурнымі дасягненьнямі Украіны.

Л. Г.

# ШАХМАТЫ № 10

Пад рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА.

## Вынік усесаюзнага конкурсу складаньня двухгадовых шахматных задач часопісу „Чырвоная Беларусь“

*(ПРАЦЯГ)*

## Рыхтуемся да сусьветнай спартакіяды

### Міжнародны рабочы турнір

Для падрыхтоўкі сусьветнай спартакіяды шахматная сэкцыя бюро ФК УсеЦСПС організуе ў ліпені месяцы г. г. міжнародны рабочы шахматны турнір. Да ўдзелу ў турніры запрашаюцца па 2 прадстаўніка ад рабочых організацый дзесяці замежных краін.

Міжнародны турнір будзе праводзіцца па групах па пэрыфэрыі.

Прадугледжваецца організаваць чатыры групы: 1) у Тыфлісе—для ўсяго Закаўказьзя; 2) у Ленінградзе—для Карэльскай АССР, Паўночнага краю, Зах. Вобласьці і БССР; 3) у Сьвярдлоўску—для Уралу і Сібіру і 4) у Ніжнім-Ноўгарадзе альбо Сталінградзе для ўсяго Паваложжа. Ігра ў групах павінна распачацца 5 ліпеня. У кожнай групе будуць іграць па 5 рабочых ад замежных організацый і 5 савецкіх шахматыстаў. Па сканчэньню групавых турніраў, 15 ліпеня ў Маскве пачнецца фінал.

### Сусьветная эстафэта

Для таго, каб палепшыць якасна падрыхтоўчую работу да спартакіяды, праводзіцца сусьветная шахматная эстафэта. Першы этап эстафэты распачаўся ў красавіку.

Эстафэта пройдзе праз 30 гарадоў Нямеччыны і 30 буйнейшых гарадоў і прамысловых цэнтраў Савецкага саюзу. Кожны горад робіць свой чарговы ход у шахматнай партыі і адначасова заносіць у дзеньнік эстафэты запісы па актывізацыі інтэрнацыянальнай шахматнай работы і іншыя прапановы. Фініш першага этапу сусьветнай шахматнай эстафэты адбудзецца ў Маскве ў часе фінала міжнароднага рабочага шахматнага турніра.

### Наш 2-гі конкурс разьвязваньняў

У гэтым нумары мы друкуем 16 прэміяваных задач нашага конкурсу. Гэтыя задачы складаюць наш другі конкурс разьвязваньняў.

Конкурс мы гэты праводзім дзеля таго, каб, паершае, выявіць усіх аматараў шахзадач у БССР, па-другое, дзеля таго, каб даведацца, наколькі задачы конкурсу орыгінальны, ці ня маюць яны якіх дэфэктаў, з-за якіх яны магчыма павінны быць зьняты з конкурсу і г. д.

Умовы конкурсу наступныя:

1. У конкурс могуць браць удзел усе жадаючыя.

**Увага.** Разьвязкі можна дасылаць і цэлымі гурткамі.

2. Пры дасылцы разьвязкаў можна ўказваць толькі першы ход.

**ВА ЎСІХ ЗАДАЧАХ МАТ У ДВА ХАДЫ**

Л. Лашынскі (Растоў)
L. Loschinski

І прэмія



Задача № 49

Л. Гугель (Масква)
L. Gugel

ІІ прэмія



Задача № 50

В. і С. Піменавы (Растоў)
W. und S. Pimenoff

ІІІ прэмія



Задача № 51

Г. П. Калугін (Ленінград)
G. Kalugin

ІV прэмія



Задача № 52

В. і С. Піменавы
W. und S. Pimenoff

V і спэц. прэмія за няпрык. перак. ex aequo



Задача № 53

Ю. Галуб'еў (Масква)
J. Golubjeff

V і спэц. прэмія за няпрык. перак. ex aequo



Задача № 54

В. Шыф (Масква)
W. Schief

VI і спэц. за блок



Задача № 55

Л. Гугель
L. Gugel

І і ІІ ганаровыя водзывы ex aequo



Задача № 56

1154

**А. Студзеніцкі (Чэбаксары)**
A. Studenecki
I і II ганаровыя водзывы ex aequo


Задача № 57

**А. Раціньян (Эрывань)**
A. Ratinjan
III ган. водз. і спэц. прэмія пачынаючаму сав. проблемісту


Задача № 58

**П. Абрамовіч (Менск)**
P. Abramowitsch
IV ган. водз. і спэц. прэмія пач. проблемісту БССР


Задача № 59

3. Разьвязкі можна дасылаць на працягу $1^1/_2$ месяцаў з дня выхаду з друку часопісу.

Дапамагчы вам у разьвязваньні гэтых задач можа вышаўшая нядаўна з друку ў выдавецтве „Фізкультура і Турызм“ новая кніжка: А. П. Гуляеў „Як разьвязваць шахматныя задачы“.

## Вынікі нашага конкурса складаньня шахматных задач уваходзяць у моц праз 2 месяцы з дня выхаду з друку гэтага часопісу

### Творчая консультацыя

Вы складаеце задачу. І раптам вы знаходзіце першы ход, варыянты, правяраеце, ці ўсе правільна... і так-жа выпадкова як „знайшлі“ першы ход і варыянты, знаходзіце пабочны разьвязак. Як вы ня б'ецеся, пазбавіцца ад яго вам не ўдаецца.

Альбо:

Вы чытаеце шахматны часопіс і знаходзіце там нейкую „тэму Шора“, тэму“ Ларсена“ і іншыя для вас „дзікія“ тэрміны.

Альбо:

Пры разьвязваньні задач гэтага аддзелу, якія ўваходзяць у конкурс, г. зн. пры вашым уключэньні ў конкурс, вы, мабыць, адну задачу ніяк не разьвяжэце, яна не падаецца вашым намаганьням.

Шмат такіх цяжкасьцяў, няўдач стаіць на шляху пачынаючага композытара. І амаль заўжды сваіх вед і ўменьня яму не хапае для перамогі.

„Чырвоная Беларусь“ у выкананьне ўзятых на сябе абавязацельстваў перад пачынаючымі, пры зьмяшчэньні вынікаў конкурсу, адчыняе творчую консультацыю. Кожны пачынаючы проблеміст можа зьвярнуцца ў консультацыю з любым пытаньнем і за любой дапамогай у галіне шахматнай композыцыі.

Для атрыманьня консультацыі пытаньне, якое вас цікавіць, акуратна напішэце на асобным лістку паперы і пашлеце ў рэдакцыю. Праз тры дні пасьля атрыманьня пытаньня вам будзе дослан адказ. Пры дасылцы запытаньня ўкажыце наступныя зьвесткі:

Прозьвішча, месца працы, адрас: хатні і рабочы, соцыяльнае становішча.

З наступнага аддзелу рэдакцыя пачынае друкаваць у дапамогу **пачынаючым невялікія популярныя нарысы лепшых савецкіх проблемістаў, якія атрымалі адлічча на нашым конкурсе на тэму „Як складаць шахматныя задачы“.**

**І. Шварцбург (Адэса)**
J. Schwarcburg
V ган. водзыў


Задача № 60

**Н. Е. Ратнікаў (Ворша)**
N. Ratnikoff
VI ган. водзыў


Задача № 61

**Г. Калугін**
G. Kalugin
I пахв. водзыў


Задача № 62

**ВА ЎСІХ ЗАДАЧАХ МАТ У ДВА ХАДЫ**

**Баеў і Лашынскі (Растоў)**
Bajeff und Laschinski
II пахв. водзыў


Задача № 63

**П. Мухін (Ленінград)**
P. Muchin
III пахв. водзыў


Задача № 64

**Гугэль, Лашынскі і Шыф (Маскв—Растоў)**
IV пахв. водзыў


Задача № 65

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1426. 2000 экз. Галоўлітбел № 806.

Малюнкі Г. Ізмайлава




**Робэрт Крудэн**

Гэтай студзеньскай ноччу на фабрычнай дарозе можна было бачыць два рады людзей. Адзін, бязупынны, тараплівы струмень, які выліваўся на дарогу з аўто, трамваяў, аўтобусаў; з дарогі на мост, які павіс па-над ёю і вёў на фабрыку Аўтомабільнай кампаніі Рывэрса. Гэта ішла начная зьмена. Другі рад, крыху паводаль, стаяў на месцы, доўгая крывая чарга людзей, якія з зайздрасьцю ўпіваліся вачыма ў тараплівых, нэрвовых рабочых—гэта былі беспрацоўныя. Яны пачалі зьбірацца яшчэ а чацьвертай гадзіне, калі ішла з працы дзённая зьмена. Яшчэ тады вакол драўлянай халупы, што служыла канторай для найма рабочых, зьбіраліся купкі страшэнна схудзелых мужчын. Цяпер было пасьля адзінаццатай—і сотні былі ў чарзе. Да раньня тут зьбяруцца тысячы.

Гэты стракаты натоўп моўчкі вітаў рабочых кожнае раньне. Апранутыя толькі ў рабочыя кашулі яны ёжыліся і калаціліся на холадзе. Іхнія твары сьсінелі ад ветру; вочы ад голаду зрабіліся вострымі. Толькі нэгры былі апрануты крыху цяплей—на галаве падраныя сьвітэры, ногі захутаны ў старыя мяшочныя дзяругі, на плечы накінуты лахманы старой коўдры.

Але цяпер было цёмна. Людзей можна было заўважыць толькі тады, як вецер дзьмухаў полымем коксавых печаў з таго боку дарогі. Часамі яны хаваліся ў цемры, часамі мільгалі ў сьвятле чырвоных сьветаценяў. Стаяць у чарзе было холадна, але там, далей людзі бачылі, як домны палілі неба, афарбоўваючы яго ў туманава-чырвоны бляск, які ніколі не мяняўся, ніколі не згасаў. Часамі праз вецер і глухі грукат цягнікоў яны маглі чуць спакойны гул зборачнай і маторнага цэху. А там у далячыні ледзь прыкметна мігацеў кволы водблеск сьвятла, які азначаў вялічэзную шыльду Аўтомабільнай Кампаніі Рывэрса.

Восьмы ў чарзе быў Джым Брогэн. Сёньня ўраньні Джым вышаў з дому а шостай гадзіне, але тысячы прышлі да яго—ён ні ў якім разе не дайшоў-бы да канторы. Расчараваны ён пацягнуўся да хаты, каб урваць некалькі гадзін сну, рыхтуючыся вартаваць сваю чаргу ўсю ноч. Але ён ня мог спаць. Лежачы ў ложку, яму здавалася, што нехта цяжкім молатам грукаціць па яго мазгох. Што, калі ён атрымае працу! Ён нават ня сьмеў спадзявацца. Ён быў узрушаны і ня мог супакоіцца—паўсталі ўсе надзеі, алядзянелыя за восем месяцаў беспрацоўя. Іх моцны парыў ахапіў усю яго істоту. Ці прымуць яго на працу? Ізноў ён дойдзе туды, адкуль ясна відна абвестка „Рывэрс наймае 30.000 людзей“. Трыццаць тысяч! Дапраўды, ці можа быць гэтулькі беспрацоўных у цэлай краіне! Ён па чарзе крычаў і сьмяяўся.

У другім пакоі Мэры калыхала маленькага Джэмса, але нават і дзіцянё было ахоплена надзеяй. Яно раз-па-раз стагнала і енчыла, але не хацела спаць. А Мэры? Сёньня ніякіх крыўдных слоў. І асаблівыя пяшчоты да дзіцяці. Сёньня яна нават засьпявала,—так як сьпявала ў хуткабеглыя першыя месяцы пасьля іхняга вясельля, як сьпявала пакуль беспрацоўе разьлілося між імі, як халоднае шэрае мора. Джым рагатаў, разваліўшыся на ложку і адчуваў, як кожная цягліца яго цела трымцела ў экстазе радасьці... Ён атрымае працу!

Але што, калі ня возьмуць на працу—шапацела яму злавеснае сумненьне. Ён адганяў яго, кажучы сабе сьціснуўшы зубы. „Я атрымаю працу!“ Далей-жа гэтак жыць нельга. Як патрэбна яму цяпер праца! Яго павінны ўзяць на працу. Ён паўтараў аб'яву „Рывэрс наймае 30.000 людзей“. Бязумоўна, ён атрымае працу.

Але тут, стоячы ў чарзе, калі за ім былі тысячы беспрацоўных, а апрача іх вакол толькі чорнае сьцюдзёнае неба, Джым траціў упэўненасьць. Праўда, ён быў восьмым у чарзе, але-ж вось людзі кажуць, што сёньня ураньні прыказчыкі вybіралі кожнага дваццатага чалавека, незалежна ад таго, як доўга ён стаяў у чарзе. Што, калі гэтак будзе і заўтра? Гэтая думка да таго ахапіла яго, што ў яго займала дух і ў нагах адчувалася кволасьць. Ён зьмёрз, выгаладаўся і змардаваўся. Ён моцна сьціскаў медзякі ў кішэні. Ці не пайсьці яму выпіць кавы? Але-ж тады можна страціць сваё месца ў чарзе. Не, ён ужо выстаіць усю ноч, зьеўшы сухога хлеба з консэрвамі. Але чым павячэрае Мэры? Джым ніяк ня мог дадумацца.

Нейчы голас абарваў яго думкі.

— Хлопец, маеш запалкі?

Джым паківаў галавой.

— Хіба ня курыш?—запытаўся сусед, здабыўшы запалку.

— Але-ж!

— Закуры!

Джым з радасьцю ухапіўся за цыгарку. Ён ня курыў з таго часу, як захварэла дзіцянё, цэлых шэсьць месяцаў. Доктар параіў даваць яму апэльсіны. Джым горка ўсьміхнуўся, успомніўшы гэта. Але здорава зацягнуўшыся, ён адчуў сябе трывалей, бо цыгарка сагрэла яму рот. Ён заўважыў свайго кампаньёна. Невялічкі чалавек, відаць, некалькі быў нават тоўстым. Няголены твар пасінеў ад холаду. Вочы, здавалася ў цемры, блішчаць, як у воўка. Стары і прашараваны і сіні баваўняны халацік дрэнна абараняў ад ветру.

— Да-душы я-б хацеў мець паліто—загаварыў ён. Ён зацягнуўся апошні раз і выкінуў сатлелы акурак.

— Залажыў маё паліто—паясьніў ён, сустрэўшы дапытлівы Джымаў погляд.

— Давялося, каб яно спрахла. Паверыш, і шэлега не засталося за чатыры месяцы беспрацоўя—усё давялося пазакладаць.

Ёй памаўчаў, выцяг з кішэні другую цыгарку і запаліў яе аб Джымаў акурак.

— Я працаваў тут,—заўважыў ён—кінуўшы ў бок маторнага цэху.

— Ну,—запытаўся Джым, зацікавіўшыся.

— Праўда! Я працаваў у маторным цэху за сьвідравальным варштатам. Тры дні запар яны гналі продукцыю чорт ведама як і Стыў Мільлер сказаў „няма дурных“, і кінуў працу. Гэта было тры гады таму назад.

— Цяпер бы ўжо ня кінуў,—сказаў Джым.—Ды які сэнс? Яны ўсе адзін чорт. Хлопцы казалі мне, што гэты завод ня горшы за іншыя.

У гэты час ішла на працу начная зьмена. Апошні рабочы з дзённай зьмены цягнуўся дахаты. Пахіленыя згорбленыя постаці стомленых людзей. Часамі ў сьвятле коксавых печаў можна было разгледзець іхныя твары—брудныя, стомленыя, з адценьнем найвышэйшай змардаванасьці. Джым уздыхнуў.

Хто з тых, што стаялі ў чарзе, не зайздросьціў тым, што працавалі? Рабочыя з Тэнэсі, Арканзасу, Місуры, Дакоты, Айовы, Айдахо; рабочыя з Тэхасу, Арызоны, Новай Мэксыкі, людзі з Мэзаба Рэйнджа, шахцёры з Огайо і Пэнсыльваніі, нэгры з Алабамы, Джорджыі, Караліны, рабочыя з Польшчы, параходныя рабочыя з Клайду і вуглякопы Руру—сотні і тысячы іх стварылі стракаты натоўп прыцягнены аб'явай:

**„Рывэрс наймае трыццаць тысяч рабочых“.**

Першая гадзіна. Стыў змоўк, Джыма ахапіла пачуцьцё самотнасьці. Чатырыста дваццаць хвілін яму заставалася думаць пакуль адчыніцца кантора...

Дзьве гадзіны. Джым амаль заснуў, прысланіўся да парэнчаў. Малюнкі мінулага праносіліся ў яго мазгох—гротэскны парад. Першы раз ён застаўся без працы восем месяцаў таму назад. Мэры, даведаўшыся аб гэтым, сьмяялася. Гэта ён першы



...Стаялі ў чарзе рабочыя з Тэнэсі, Арканзасу, шахцёры з Огайо...

раз пасьля жаніцьбы застаўся бяз працы. Маленькаму Джэмсу тады было дзесяць месяцаў. Як шчасьліва тады жылі яны з Мэры. Якая была ў іх згода! Цяпер здаецца, што гэтага ніколі ня было, што вечна быў толькі гэты холад, пакутлівае беспрацоўе, якое сьціскала ў сваіх абцугох іхняе шчасьце, пакуль яно не датлела. Сэрца Джыма пры думцы аб гэтым зашчымела болем, у глыбіні істоты адчуўся шалёны моцны парыў протэсту... Яму засталося думаць яшчэ трыста шэсьцьдзесят хвілін...

Якое шчасьце было для іх калі нарадзіўся Джэмс. З якой гордасьцю і замілаваньнем марыў Джым аб будучыне свайго сына,—ён будзе вучыць яго ў сярэдняй школе, нават унівэрсытэце; ён зробіць імя Брогена вядомым усяму сьвету. А пяшчотнасьць і любыя ласкі Мэры, яе вясёлы рогат— і пасьля... беспрацоўе... І Мэры цяпер не сьмяецца... Трыста хвілін...

Цэлых восем месяцаў з дню ў дзень ён хадзіў з аднаго завода на другі ў бясконцым шуканьні працы. Адказ усюды быў адзін—ківаньне галавы. Грошай даўно няма. Ён перастаў езьдзіць на аўтобусе—на гэта выходзіла ў дзень па меншай меры дванаццаць цэнтаў. Цяпер ён хадзіў пехатою. Вось і сягоньня ён прышоў за шэсьць міль да заводу Рывэрса.

Пасьля Джэмс захварэў. Доктар не хацеў прыйсьці да яго, калі даведаўся, што Джым беспрацоўны. Джым ізноў запаліўся ярасьцю, яго ахапілі ўспаміны палкай злосьці ад такога ўчынку, ён успамінаў як ён пабег да доктара і ка аціў у дзьверы і крычэў пакуль усіх ня ўзьняў на ногі. Тым часам Мэры навыскрабала грошай ва ўсіх суседзяў і запрасіла другога доктара. Той сказаў, што дзіцянё хварэе ад дрэннага харчаваньня і мае „сымптомы" сухотаў. Ён параіў даваць дзіцяці апэльсіны, інакш Джэмс ніколі не паправіцца. Але як маглі яны купляць яму апэльсіны?

Джым схамянуўся пасьля чацьвертай гадзіны. Яго ногі да таго адубелі ад холаду, што ён не адчуваў марозу. Ён калаціўся і выпростваў свае акалелыя рукі. Калі ён выцягнуў сваё сьнеданьне, Стыў азірнуўся, але не сказаў нічога. На яго твары быў выраз стомленасьці і голаду.

— На,—сказаў Джым, даючы яму сэндвіч.

— Дзякую... Шчыра дзякую. Хаця гэта і вельмі сорамна, аднак...

Яны прагна ўпіліся ў хлеб і хціва яго жуючы адчулі сябе лепш, дзякуючы ядзе і сяброўству. З усіх бакоў на іх паглядалі зайздросныя людзі, але яны не казалі нічога.

Каля чаргі на дарозе некалькі нэграў сядзелі ў старым разьежджаным рывэрсе. Раптам ім прышла думка раскласьці агонь. Праз некалькі хвілін весела запалала вогнішча, раскідаючы ў цьмяным зімовым сьвітаньні мірыяды бліскучых іскраў. Нэгры абкружылі яго, весела сьмяючыся і заклікаючы людзей з чаргі далучыцца да іх. Некаторыя вышлі з чаргі, яны зьмерзьлі да таго, што ледзь перасоўвалі ногі. Яны сталі вакол агню, маўкліва распасьцершы рукі. Адзін з нэграў выцягнуў добрае сьнеданьне і пачаў есьці. Ён убачыў як вочы людзей упіліся ў ежу і падзяліўся з імі. Атрымалася нешта накшталт пікніка на сьнягу. Трашчэла вогнішча, людзі закусвалі вакол яго, але сьмяяліся толькі адны нэгры. Яны ўчора прыехалі з Алабамы і спадзяваліся, што сёньня а восьмай гадзіне тут атрымаюць працу.

— На гэтым заводзе з намі будуць абыходзіцца як з белымі,—радасна сказаў адзін з іх.

— Але-ж, пагоняць таксама як і нас,—заўважыў адзін рабочы з глыбокадумным сарказмам.

Да адчыненьня канторы заставалася ўсяго адна гадзіна, калі зьявілася паліцыя. Усю ноч людзі цярпелі сьнег і вецер, цэлыя месяцы яны моўчкі пакутвалі, гэтыя апошнія дарагія гадзіны яны спадзяваліся... І цяпер як віхор наляцела паліцыя. Па чарзе прабегла мармытаньне, ціхія шэпты ў прыглушаных паўтона, як шалясьценьне ветру ў дрэвах перад навальніцай.

Паліцэйскія мотоцыклы гулі сырэнамі каля самага вогнішча. Людзі паўцякалі, паліцыя раскідала дагараўшы прысак. Крыкі, кашэчны віск, праклёны і кпіны сустрэлі гэтую „працу" паліцыі. Пешая паліцыя з клобамі ў руках заганяла людзей у чаргу. Калі хто варушыўся павольна, моцны ўдар клоба прымушаў яго сьпяшацца.

Полісмэн падыйшоў туды, дзе Джым размаўляў з Стывам. Ён зірнуў па Стыва, які трошачкі адступіў у бок і выцяг яго з чаргі. Стыў закрычаў немым голасам.

— Пашоў у канец чаргі, паскуднік!—крыкнуў яму полісмэн.

— Не пайду! Я стаяў тут усю ноч! Не пайду!—Стыў вырваўся з рук полісмэна і зноў заняў сваё месца ў чарзе каля Джыма.

— Хіба я не стаяў тут усю ноч!—крычаў ён.

— І праўда, ён быў тут усю ноч,—сказаў Джым.

— Маўчы!—буркнуў полісмэн.—Які чорт цябе пытаецца. Ён мацней размахнуўся клобам і выбіў Стыва з чаргі. Стыў закрычэў ад болю, калі клоб апусьціўся на яго галаву. Джым не пасьпеў агледзіцца, як яго таварыш ляжаў на зямлі, з-за вуха ў яго цякла кроў.

Джым пагрузіўся ў жудасную маўклівасьць. Ён ня чуў і ня бачыў нічога апрача твару полісмэна, які няясна вырысоўваўся ў цьмяным золаку. *Джым дрыжэў. Ён да таго сьціскаў рукі, што яны зрабіліся гарачымі. Здавалася, што прайшлі гады пакуль ён стаяў тут маўкліва твар да твару з полісмэнам, Потым раптам яго схапіла ярасьць. Ён выступіў наперад, пасьля першага яго кроку, за ім падалася ўся чарга*, маса людзей рушыла як паводка. Паліцыя ўцякла, прарэзаўшы марознае паветра сьвісткамі. Службоўцы на заводзе беглі да брамы з рэвальвэрамі ў руках—але людзі рушылі наперад. Яны накіраваліся да галоўнай брамы.

Загародка паваліласся, кантора для найму рабочых разьлецелася ў трэскі пад напорам тысяч людзей. Яны занялі ўсю дарогу, іхныя крыкі запоўнілі завод, пужаючы дзесятнікаў і зьдзіўляючы рабочых.

Джым бег наперадзе. Ён сьпяшаўся разам з іншымі, прагнучы помсты, ня ведаючы куды ён імкнецца, што ён будзе рабіць. Бягучы ён ня бачыў нічога, апрача Стыва, распасьцёртага на зямлі з разьбітай акрываўленай галавой.

Раптам бег спыніўся. Людзі спыніліся ў адну хвіліну, уздрыгануліся і пабеглі назад, давячы адзін аднаго. З тузіны розных месц пажарныя кішкі пачалі наносіць людзям свае лёдавыя ўдары. Джым паваліўся, струмень ўдарыў яму проста ў твар. Ён аглушаны ляжаў, з носа моцна лілася кроў. Ён увесь быў мокры, але раптам праз крыкі ён пачуў тарахценьне паліцэйскага грузавіка. Джым ускочыў на ногі і пабег.

За сабою ён чуў крыкі і енкі людзей, якіх атакавала паліцыя. Яго ахапіла жах. Некалькі хвілін назад ён некуды імкнуўся з людзямі, але цяпер яны ўцякалі ва ўсіх напрамках ахопленыя страхам. Ён пракладаў сабё дарогу праз людзей, стараючыся выбіцца да асноўнай масы ўцекачоў, якія беглі на фабрычнай дарозе. Ён спатыкнуўся і разьбіў сабе твар аб загародку. Устаючы, ён бачыў чалавека, які пракалоўся на вастрыё паваленай загародкі. Джым ледзь не абамлеў—ён цяжка дыхаў, а сэрца калацілася, як трашчотка аўтаматычнага прэсу. Ён баяўся, што ён канчаткова зваліцца пад цяжарам сваёй мокрай вопраткі.

На момант натоўп ізноў шалёна рушыў наперад, але крыкі сьведчылі аб зьяўленьні паліцэйскіх рэзэрваў. Уцякаючы Джым падраў свой гарнітур. Ён валіў людзей, якія сустракаліся на яго шляху, спатыкаўся на тых, якія абамлелі, і ўвесь у сіняках бог далей у шалёным жаданьні ўцячы. Людзі пранесьліся паўз электрастанцыю, паўз апошнюю браму, праз чыгунку і дабеглі да гораду... Тут яны былі ў небясьпецы...

Па ўсёй дарозе да Дэтройту цягнуліся людзі па двое, па трое. Джым ішоў з адным чалавекам, вопратка якога была мокрай да нітачкі. Твар чалавека быў багровы. Вочы наліліся крывёй. Ён нешта шаптаў, нэрвова сьпяшаючыся. І пасьля сказаў Джыму голасам, у якім адчуваліся месяцы галадоўлі.

— Эх, няма у мяне стрэльбы!

Джым сьціснуў зубы і маўчаў.

Пераклад з ангельскае *А. Мардвілкі.*

# ПРАЗ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДЗКІЯ, САЎГАСНА-КАЛГАСНЫЯ І ШКОЛЬНЫЯ СПАРТАКІАДЫ ПАДРЫХТУЕМСЯ ДА СУСЬВЕТНАЙ СПАРТАКІАДЫ

Ажыцьцяўленьне 4-х лёзунгаў ходу падрыхтоўкі ФК організацый да Сусьветнае спартакіяды 1933 г.: 1) кожны фізкультурнік да сусьветнага сьвята пролетарыяту павінен быць лепшым ударнікам на прадпрыемстве. 2) 65000 фізкультурнікаў, організаваных у ФК самадзейных руху да 1 жніўня 1933 г.

3) 20000 фізкультурнікаў, якія здалі ўсе нормы па комплексу ГПА і атрымалі значок „Гатоў да працы і абароны".

4) Перабудова ўсёй работы па ФК навучальных устаноў на аснове комплексу ГПА і поўны ахоп усіх студэнтаў, а таксама і вучняў іншых навучальных устаноў фізычнай культурай. Гэтыя лёзунгі патрабуюць мобілізацыі ўсёй масы фізкультурнікаў на іх выкананьне. Гэтыя 4 асноўныя задачы падрыхтоўкі да сусьветнага сьвята выкананьня праграмы 5-гадовага соцыялістычнага будаўніцтва павінны стаць стрыжнёвымі ў штодзеннай рабоце кожнага колектыву, ячэйкі ФК, у кожным зьвяне кіраўніцтва.

2-гі агляд-конкурс на лепшы колектыў ФК і інструктара, які пачаўся з 1-га мая, зьяўляецца першым этапам праверкі і разгортваньня падрыхтоўкі ФК організацый да сусьветнай спартакіяды.

Уключэньне ў агляд ФК колектываў па прафсаюзах Беларусі (75%), у тым ліку колектываў навучальных устаноў, у параўнаньні з конкурсам 1931 г. (35 проц.), даюць падставу меркаваць, улічваючы баявыя тэмпы работы, якая разгортваецца па організацыях, што конкурс дасьць значныя вынікі.

Адным з мэтодаў ФК работы, садзейнічаючай росту ФК організацый, росту ўдарніцтва, стварэньню вучасткаў ФК на прадпрыемствах, ахопу рабочых і вучнёўства здачай норм па комплексу і падвышэньню якасных паказальнікаў,— зьяўляюцца вытворча-фізкультурныя спартакіяды.

Надаючы вялікае значэньне вытворча-фізкультурным спартакіядам, як магутнаму вагару ахопу мас вучэбнай работай па комплексу, як галоўнейшаму зьвяну масавай падрыхтоўкі да сусьветнае спартакіяды, III пленум Бюро ФК ВЦСПС высунуў лёзунг *„Ніводнага вытворчага колектыву, які не правёў-бы ў 1932 г. сваёй вытворча-фізкультурнай спартакіяды"*.

У выніку вялікае работы па популярызацыі вытворча-фізкультурных спартакіяд сярод вытворчых колектываў ФК і сярод мас студэнцтва рад колектываў прыступіў да організацыі вытворча-фізкультурных спартакіяд. Адным і першых пачаўшых і правёўшых свае спартакіяды зьяўляюцца колектывы ФК хімікатэхнолёгічнага тэхнікуму (г. Менск) і Дарбудвуча (г. Бабруйск).

У гэтых установах пры непасрэдным удзеле адміністрацыі і персоналу выкладчыкаў праходзіла перабудова па вытворчаму прынцыпу, былі распрацаваны конкрэтныя опэрацыйныя пляны правядзеньня спартакіяд. Спартакіяды ахапілі ўвесь асабовы склад навучальных устаноў, у залікі ўключаліся і паказчыкі акадэмічных пасьпяховасьцяй, удзельнічаньне ў грамадзка-політычных кампаніях асобных вучэбных груп і г. д. у выніку 75 проц. вучнёўства ўцягнута ў колектыў ФК.

Вопыт гэтых невялікіх параўнаўча, але моцна зьнітаваных колектываў ФК неабходна скарыстаць усім колектывам ФК, у тым ліку і вытворчым, памятаючы, што вытворча-фізкультурныя спартакіяды зьяўляюцца першым этапам падрыхтоўкі і праверкі баявой гатоўнасьці ФК організацый да сьвята выкананьня ў 4 гады 5-гадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва.

**В. П.**



Новыя нафтавыя промыслы ў Горна-Чачэнскім раёне.

## ПРОЕКТ

І. ЁСЬМАН

Сонечны лёг
на паперу
ласкут,
простым,
рухавым
клінам.

Цыркуль маленькі
бяру ў руку —
мераю
строгасьць
ліній.

Кожная лінія
і зыгзаг
выйшлі! не вельмі
проста.
Кожная лінія
ў чарцяжох
ў мілімэтровым
росьце.

Я правяраю
чарцёж свой,
нібы прымаю
пакоўку.
Бачу ў лініях
харастВо—
дакладнасьць
проектыроўкі.
Вырасьце
новы завод
на гары,
ў новым
савецкім стылі.

Будуць з таполем,
з дубом
гаварыць,
зуб'ем
брынчастым
пілы.

Сонечны ляжа
на вокны прамень.
Столяр,
станочнік
скажа:
— Эх, і пагодка,
такі дзень,
дай палнацісьнем,
наляжам!
І дзе цяпер
шалясьціць
трава;
дзе толькі лётаюць
птушкі—
вырасьце новы
завод-комбінат
у Барысаўскай
пушчы.
Будуць з таполем,
з дубом
гаварыць
зуб'ем брынчастым
пілы.

Вырасьце новы
завод
на гары
ў новым
савецкім стылі!

# ХРОНІКА

Усё для імпэрыялістычнай вайны.
Танкі ўпакаваныя ў скрынкі ў Гамбургскім парту накіроўваюцца ў Шанхай.



Нямеччына. Пажар штутгартскага старыннага замку, які ўзьнік з прычыны выбуху пораху, схаванага там урадам, пэўна на выпадак паўстаньня рабочых. Хоць на дапамогу беспрацоўным грошай не хапае, усё-ж на аднаўленьне замку асыгнавана буйная сума.





Прыезд дэлегацыі ўраду Геджасу—Нэджды і далучаных вобласьцей у Маскву.
На здымку: прынц Фэйсала і міністр замежных спраў Геджасу.



Дзюнкірхэн. Плавучы док на 120 тысяч тон, перададзены Нямеччынай Францыі ў лік рэпарацыі.

**Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар М. ХВЕДАРОВІЧ**